6 сакавіка 2020 | № 9 (668)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

Эпідэмія 1980-х
Стар. 8

**4** У ЧАКАННІ ВЫСПЯТКА, ШТО ПАДБАДЗЁРЫЦЬ

Пакуль крах яшчэ не здарыўся, эліта неабходнасці рэформаў не адчувае, яна распачынае рэформы, калі ўжо позна. І сітуацыя імкліва пераходзіць у стадыю «працэс пайшоў»

**5** НЕ ВАЖНА, ЯК ГАЛАСУЮЦЬ, ВАЖНА, ЯК ЛІЧАЦЬ

У рэдакцыю «Новага Часу» трапілі нататкі Ірыны Гусевай, якой давялося быць назіральніцай на выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў у лістападзе 2019 года



**6–7** «БУДОЎЛЯ «ТАМБАЗА» – ЗАКОННЫ КРАДЗЕЖ»

У будаўніцтва двух дамоў на вуліцы Багдановіча ў Мінску (ЖК «Аркадзія») уклалі грошы больш за 600 сем'яў. І пагарэлі

**10** «ЁН ЛЮБІЎ БЕЛАРУСЬ...»

20 гадоў таму пад коламі таксоўкі абарвалася жыццё даследчыка, гісторыка, педагога і патрыёта Міколы Ермаловіча, які вярнуў беларусам спадчыну ВКЛ



# Правы ці прыгажосць?

## Пра што забываюць 8 Сакавіка



Кацярына ШУСТ

**Набліжаецца папулярнае яшчэ на нашых прасторах вясновае свята — 8 Сакавіка. Міжнародны жаночы дзень. Адзіны ў годзе дзень, калі пра жанчын узгадваюць на ўсіх узроўнях, шырока і публічна.**

У гэты дзень кожны бок будзе гучна казаць пра галоўныя важныя для жанчын рэчы, у асноўным на літару «п»: феміністкі нагадаюць пра правы, а прыхільнікі традыцыйных поглядаў — пра прыгажосць. А так хочацца ўзгадаць іншае важнае слова, без якога ці маюць значэнне ўсе гэтыя правы і прыгажосць? Пачуцці.

За святочнымі букетамі, якія часта дораць па інерцыі, за гучнымі і штампаванымі, як пад капірку, віншаваннямі дзяржслужбоўцаў, за агрэсіўнымі феміністычнымі заклікамі змагацца не за кветкі, зусім у цені застаюцца менавіта пачуцці, якія кожны дзень жыцця, ад самага нараджэння, ёсць ва ўсіх жанчын: у прыгожых і не вельмі, у прыгнечаных і эмансіпаваных. І вакол гэтых пачуццяў у нас, людзей, звычайна і круціцца наша існаванне.

Чаго вартае любое змаганне за правы, калі яно не дасягне сваёй галоўнай мэты — шчаслівага і паўнавартаснага жыцця? Мне здаецца, сучасныя феміністычныя рухі часта пачынаюць займацца змаганнем дзеля змагання, выроўніваннем жанчын з мужчынамі дзе толькі можна. Але ж ці ў выроўніванні шчасце? Жанчыны дзе перамаглі, дзе актыўна змагаюцца за права кантраляваць свае цела і рэпрадукцыйныя функцыі, але па-ранейшаму ў большасці сваёй абіраюць стварэнне сям'і і нараджэнне дзяцей. Часта нават коштам працэдуры ЭКА, якая надзвычай дарагая, пакутлівая, і не заўжды заканчваецца паспяхова. За час яе існавання — 40 гадоў — гэтым чынам нарадзілася ўжо 8 мільёнаў дзяцей. Ці не лепшы гэта доказ таму, наколькі, пры ўсіх астатніх даступных жыццёвых сцэнарах, для жанчын найчасцей важнейшымі застаюцца сям'я і тое, што яны атрымліваюць дзякуючы сям'і?

Мая сяброўка вельмі ўзрадавалася, калі яе скарацілі за паўгады да пенсіі: нарэшце яна змагла мець вольны час, каб больш адпачываць і быць з роднымі.

Сёння часта гучаць размовы пра няроўнае размеркаванне матэрыяльных рэсурсаў паміж мужчынамі і жанчынамі: апошнія працуюць на менш аплачваемых працах, не бяруць дадатковыя нагрузкі, не займаюць высокія пасады, некалькі гадоў знаходзяцца ў дэкрэце. Але пры гэтым чамусьці ўвагай абмінаюцца тыя самыя пачуцці — найважнейшая і зусім не матэрыяльная каштоўнасць, якую маюць жанчыны праз такія паводзіны. Жанчыны праводзяць больш часу з роднымі і дарагімі людзьмі, а гэта — невычэрпны эмацыйны рэсурс, які не кампенсаваць нічым матэрыяльным. Ці разумна тады здзіўляцца, што жанчыны будуць зноў і зноў збольшага абіраць такі лад жыцця, ці разумна чакаць ад іх іншага, хай сабе і гендарна выраўненага, але не такога выгаднага ім выбару?

Жанчыны маюць права самастойна і без прымусу брацца шлюбам, але, на жаль, гарантаваць узаемнае каханне і шчасце ў сям'і немагчыма ніякімі дэкларацыямі. Жанчыны ўсё часцей маюць права на партнёрскія роды, але ніхто не прымусіць партнёра ў гэтым удзельнічаць, калі той



Фота EPA/UPG

недастаткова эмпатычны. Ці калі яго проста няма. Можна колькі заўгодна прыдумляць механізмы, што будуць змушаць мужчын ісці ў адпачынак па доглядзе за дзіцём — але якасць гэтага догляду і глыбіня бацькоўскіх пачуццяў залежаць толькі ад асабістай адказнасці чалавека. Занадта шмат таго, што робіць нас шчаслівымі, усё ж знаходзіцца ў сферы міжасабовых стасункаў і залежыць не ад правоў ці законаў.

Хаця добрыя законы і правы, канешне, не зашкодзілі б, але, на жаль, ад нашай дзяржавы пакуль не выпадае чакаць ні таго, ні другога — пры ўсяляких пафасных віншавальных сакавіцкіх прамовах. Пагатоў, няма сапраўднай увагі да жаночых пачуццяў нават там, дзе гэтаму не замінае заканадаўства.

Яшчэ адна мая сяброўка не магла зацяжарыць, выконваючы ўсе неабходныя рэкамендацыі інтэрнэту, перачытаўшы процьму тэматычнай літаратуры. Пасля трэцяй спробы, звярнуўшыся ў паліклініку, нечакана

**Чаго вартае змаганне за правы, калі яно не дасягне мэты — шчаслівага жыцця?**

адкрыла для сябе дзіўную норму ў выглядзе «спрабуйце яшчэ, чытайце менш, прыходзьце праз год». Пры ўсіх закліках дзяржавы нараджаць дзяцей, пры перыядычных абяцаннях рознай фінансавай падтрымкі акурат дзяржава і не ідзе насустрач людзям, якія так хацелі б нарадзіць дзіця і без усіх гэтых стымуляцый. Не трэба ж нават матываваць там, дзе можна проста дапамагчы!

Зрэшты, не заўжды наша шчасце залежыць ад дзяржавы — і тое выдатна. Але гэта патрабуе персанальнай чалавечай адказнасці. Няма нічога кепскага ў тым, каб дарыць кветкі. Кепска, калі гэта толькі даніна звычаю. Віншуючы матулю з 8 Сакавіка, адкажыце сабе: ці часта вы тэлефанавалі ёй, заходзілі ў госці? Набываючы кветкі каханай, задумайцеся: ці верны вы муж, ці надзейны і шчыры партнёр, ці праяўляеце ўвагу і пяшчоту не толькі ў свята? Ці з павагай вы ставіцеся да калегі — вышэйшай, ніжэйшай ці роўнай вам у пасадзе і ці належным чынам цэніце яе працу? Усе кветкі свету не падораць шчасця, якое крыецца ў самых бескаштоўных і адначасова самых дарагіх рэчах.

А вам, дарагія чытачкі «Новага Часу», мы жадаем шчасця, шчасця і яшчэ раз шчасця. Няхай тыя, хто змагаецца і за вашыя правы, ніколі не забываюць пра галоўнае і шануюць вашыя пачуцці. Няхай вашае жыццё будзе прыемным не адзін дзень на год, а кожны дзень.

# Падмуркі дамоў Луцкевічаў захаваюць

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Рабочыя, якія ладзяць рэканструкцыю ў мінскім парку Янкі Купалы, не будуць праводзіць камунікацыі праз падмуркі дамоў братоў Луцкевічаў.**

Некалькі месяцаў таму ў Купалаўскім скверы пачаліся працы па добраўпарадкаванні: пракладка новых сцежак, усталяванне дадатковага асвятлення, праўядзенне камунікацый. У выніку будаўнікі дакапаліся да падмуркаў вядомых напачатку мінулага стагоддзя лазняў Плаўскага, дзе мылася сталічная інтэлігенцыя, у тым ліку Янка Купала, а таксама да падмуркаў дамоў беларускіх адраджэнцаў Івана і Антона Луцкевічаў. Да апошняга часу рэшткам будынкаў пагражала зруйнаванне, але цяпер, здаецца, іх не крануць. Пра гэта «Новаму Часу» распавёў вядучы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Павел Каралёў, які назіраў за тым, як вядуцца працы, і змагаўся за захаванне выяўленых падчас іх каштоўных артэфактаў.

Спачатку планавалася, што праз падмуркі дамоў Луцкевічаў правядуць трубу для адводу вады, але яе, на шчасце, праклалі міма, хоць і ўшчыльную да падмуркаў. Цяпер праз іх мусілі праклaсці траншэю з кабелем для новага фантану, які будуе «БПС-Банк».

— Удалося дамовіцца з рабочымі, што кабель абыдзе падмуркі. Я таксама звязваўся з банкам, яны сказалі, што выступаюць за захаванне спадчыны, — распавёў Павел Каралёў. — Адзінае, што не ўдалося зрабіць, — спыніць пракладанне сцежкі праз падмурак аднаго з дамоў, там некалькі ўзроўняў цэглы прыбралі. І цяпер яшчэ капаюць траншэю пад асвятленне, таксама часткова бетон і кладку прыбяруць.

Каб зберагчы падмуркі і надаць ім ахоўны статус, Павел Каралёў падаў заяўку на ўнясенне іх у Спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў.

— Але, ведаючы сітуацыю, спадзеву на ўключэнне падмуркаў у Спіс мала, — зазначае вядучы навуковы супрацоўнік музея. — А далей трэба будзе зрабіць мемарыялізацыю, паказаць межы гэтых падмуркаў. Ёсць думка звярнуцца з такой прапановай у «БПС-Банк», гэта не патрабуе вялікіх выдаткаў.

Павел Каралёў спадзяецца, што калі-небудзь можна будзе надбудаваць на падмурках драўляныя дамы, каб паказаць, як яны выглядалі ў арыгінале, і зрабіць там музей.

# Канапацкая — у свабодным палёце

Сяргей ПУЛЬША

**Аргкамітэт па правядзенні праймерыз сярод прэтэндэнтаў на ролю адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад дэмакратычнай апазіцыі «пракаціў» кандыдатуру Ганны Канапацкай. Яе не будзе ў спісе прэтэндэнтаў на адзінага. І не толькі з-за тэхнічных хібаў.**

Як паведаміў на прэс-канферэнцыі, прысвечанай завяршэнню рэгістрацыі прэтэндэнтаў на адзінага кандыдата выканаўца абавязкаў каардынатара штабу праймерыз Алесь Сігаеў, у выніковы спіс трапілі пяцёра. Гэта прадстаўнікі БХД Павел Севярынец і Вольга Кавалькова, старшыня Руху "За Свабоду" Юрась Губарэвіч, намеснік старшыні партыі БНФ Аляксей Янукевіч і старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Мікалай Казлоў. Ганна Канапацкая «выпала з абоймы».

Як было заяўлена раней, прэтэндэнт на адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад дэмакратычных сілаў на сёлетнюю кампанію, які вылучаўся не партыйнай структурай, павінен быў сабраць у сваю падтрымку 200 подпісаў грамадзянаў. Ганна Канапацкая здала 224 подпісы. Для праверкі была адабраная прыкладна палова з іх — 100 подпісаў. З іх 41 подпіс быў прызнаны «несапраўдным» — не ўтрымліваў неабходнай інфармацыі пра людзей альбо несапраўдную інфармацыю. «Напрыклад, тры подпісы былі з датай нараджэння — 2020 год», — адзначыў Сігаеў.

Але подпісы — не адзіная прычына, па якой Канапацкай адмовілі ва ўдзеле ў праймерыз. Па словах Сігаева, аргкамітэт па правядзенні праймерыз грунтуе сваю працу на ўзаемным даверы і павазе. З гэтым у Ганны Канапацкай таксама ўзніклі праблемы. Сігаеў, які прымаў у Канапацкай дакументы на рэгістрацыю, быў шчыра здзіўлены паводзінамі прэтэндэнткі. Не толькі тым, што яна публічна казала ў інтэрнэце, але і, як ён выказаўся, «пагрозамі» ў дачыненні да аргкамітэту ў прыватным парадку. Напрыклад, Канапацкая ў нейкім выпадку пагражала звярнуцца ў адпаведныя дзяржаўныя органы для дачы ацэнкі дзеяння аргкамітэту.

Даволі дзіўна, калі чалавек, што прэтэндуе на супрацьстаянне з уладай у час прэзідэнцкіх выбараў, апелюе да нейкіх «дзяржорганаў» у першым, і не самым важным этапе кампаніі.

Па словах яшчэ аднаго ўдзельніка прэс-канферэнцыі, сустаршыні БХД Віталя Рымашэўскага, інфармацыя па подпісах Канапацкай была ў аргкамітэту яшчэ за пяць дзён да прыняцця рашэння — з тым, каб яны абмеркавалі сітуацыю ў сваіх структурах. То-бок, адвод кандыдатуры Канапацкай быў не спантанным, а ўсвядомленым рашэннем нават не персанальна прадстаўнікоў партый і арганізацый, што ўваходзяць у аргкамітэт, а рашэннем іх структур. Можна выказаць здагадку, што на Ганну Канапацкую проста не пагадзіўся працаваць актыў дэмакратычных партый, што ўдзельнічаюць у праймерыз.

Рашэнні па рэгістрацыі таго ці іншага прэтэндэнта ў аргкамітэце прымаюцца кансэнсусам. Па спадарыні Ганне такога кансэнсусу дасягнуць не ўдалося. Супраць яе кандыдатуры выступіла не толькі Аб'яднаная грамадзянская партыя, але і Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада).

Што ж да астатніх пяці прэтэндэнтаў, то вельмі хутка пачнуцца іх паездкі па рэгіёнах. Яны будуць адбывацца па аўторках, пятніцах, суботах і нядзелях. Усяго плануецца аб'ехаць 56 гарадоў і мястэчак. Першыя ў спісе — Гарадок (ужо ў гэтую пятніцу), Віцебск і Наваполацк (7 сакавіка), Мёры, Шаркаўшчына і Паставы (8 сакавіка). На ўсе сустрэчы грамадзян заклікаюць прыходзіць з пашпартамі, бо па іх будуць выдавацца выбарчыя бюлетэні на галасаванне па адзіным кандыдаце.

Журналісты выказалі занепакоенасць тым, што сустрэчы з народам могуць зрывацца. Але адмаўляцца ад планаў аргкамітэт пакуль не плануе. «У сувязі з каронавірусам у нас увогуле могуць абвясціць каранцін і забараніць любыя масавыя мерапрыемствы», — сказаў Сігаеў, падказаўшы ўладам файны ход для зрыву праймерыз.

Сайт жа па анлайн-галасаванні пакуль затрымліваецца з запускам. Па словах таго ж Віталя Рымашэўскага, гэта звязана з сыходам з кампаніі Ганны Канапацкай. Паколькі прэтэндэнтаў стала на аднаго менш, трэба выправіць сістэму галасавання. Справа ў тым, што аддаць голас у інтэрнэце за каго-небудзь з палітыкаў можна будзе не проста так, а праз аўтарызацыю — код, які ў sms прыйдзе на мабільны тэлефон. Такім чынам, з аднаго нумару мабільніка прагаласаваць можна будзе толькі адзін раз.

Хутка таксама запрацуе і сайт праграмы адзінага кандыдата ад дэмакратычнай апазіцыі. Цяпер эксперты дапрацоўваюць гэту праграму, якая будзе ўключаць у сябе пакет рэформаў, што абавязжацца правесці «адзіны». На гэтым сайце народ зможа не толькі абмеркаваць праграму, але і ўнесці свае прапановы па яе рэалізацыі. Цягам красавіка такія прапановы будуць прымацца і абмяркоўвацца.

Віталь Рымашэўскі не выключыў, што такім абмеркаваннем беларусы нават прымусяць уладу зрабіць нейкія захады да рэформаў — каб перахапіць ініцыятыву ў апазіцыі. Па яго словах, такія выпадкі нярэдкія — патрабаванні да ўладаў, падмацаваныя масавымі пратэстамі і акцыямі наўпроставага дзеяння, не раз прымушалі ўладу пачаць перагляд сваёй палітыкі. Так было, напрыклад, з акумулятарным заводам у Брэсце ці з пакараннямі па сумнавядомым 328-м артыкуле Крымінальнага кодэксу, які ў выніку стаў больш мяккім.

Карацей, кампанія па выбарах адзінага кандыдата ад апазіцыі ўступіла ў актыўную фазу. І ад неабыякавых людзей залежыць, хто гэтым адзіным будзе і якая праграма ў яго з'явіцца. Так што — можна шукаць абвесткі ў інтэрнэце пра сустрэчы з «кандыдатамі ў кандыдаты» ў вашым горадзе.

І не забудзьце пашпарт!

# «Сэканд-хэнд» — на ўскраіны?

Павел КІРЫЛАЎ

**«Беллегпрам» працягвае настойваць на ўвядзенні больш строгіх умоваў для працы крамаў сэканд-хэнду. Новая ідэя — адсунуць іх на перыферыю.**

У інтэрв'ю тэлеканалу СТБ Таццяна Лугіна сказала, што «Беллегпрам» не пакіне спробаў лабіяваць рэгуляванне гэтага віду гандлю: «Магчыма, калі не закрыццё, то, прынамсі, вынас яго з нейкіх абласных цэнтраў, буйных гарадоў, з цэнтральных вуліц». Аргументацыя неабходнасці абмежаваць сегмент сэканд-хэндавага гандлю прагучала такая: «Мы за сумленную канкурэнцыю. Калі нашы прадпрыемствы вытрымліваюць усе тэхрэгламенты, патрабаванні, мы правяраем на ўсе паказнікі бяспекі вопратку, то хочацца, каб усе на рынку аналагічна працавалі».

Але калі прэтэнзія да бяспекі б/у адзення, то чаму няма праблемы ў яе продажах на ўскраінах тых самых Магілёва ці Віцебска?

Насамрэч, «Беллегпрам» не першы раз і з самымі рознымі матывіроўкамі просіць урад разабрацца з сэканд-хэндам. Тэндэнцыя такая, што беларускія сем'і з нізкім узроўнем даходаў пераарыентоўваюцца на пакупку адзення ў такіх крамах і на анлайн-пакупкі. У прыватнасці, у канцэрне наракаюць, што нібыта да дзвюх трацінаў адзення там — не былое ва ўжытку, а новае. Маўляў, завозіцца з-за мяжы не распрададзены там і істотна патаннелы тавар, нават з этыкеткамі. І таму ён павінен адмыслова размытняцца са сплатай увазных пошлін, каб канкурэнцыя была сумленнай.

У 2018 годзе канцэрн прапаноўваў заканадаўчую норму пра забарону прадаваць праз інтэрнэт патрыманыя рэчы. Яна тычылася толькі анлайн-продажу ІП і юрыдычнымі, а не фізічнымі асобамі. Падстава фармулявалася так: у пакупнікоў няма магчымасці атрымаць у поўным аб'ёме інфармацыю пра стан тавару, яго недахопы, бо апісанняў і фотаздымкаў у інтэрнэце недастаткова для належнага ўяўлення. Апроч таго, даводзілася, што, набываючы такія тавары ў інтэрнэт-краме і ажыццяўляючы дыстанцыйную аплату перад дастаўкай, пакупнікі пазбаўляюцца магчымасці вярнуць тавар. Бо, паводле закона, былыя ва ўжытку рэчы абмену і вяртанню не падлягаюць.

Але па выніках грамадскага абмеркавання, калі паступіла мноства негатыўных водгукаў ад людзей, гэтую забарону з падрыхтаванай пастановы Саўміна выкраслілі.

Па словах Лугіной, у 2019 годзе ў Беларусь было завезена сэканд-хэнду на 78 мільёнаў долараў. Па яе словах, гэта «вялікая лічба», частка якой — недаатрыманы прыбытак «беллегпрамаўскіх» прадпрыемстваў. Дарэчы, усяго ў галіне ў 2019 годзе было выраблена прадукцыі на 880 мільёнаў долараў, паведамілі ў прэс-службе «Беллегпраму».

Заклапочанасць кіраўніцтва канцэрна расце і таму, што ў 2019 годзе экспарт прадукцыі яго прадпрыемстваў склаў 94% ад паказнікаў 2018 года. Лугіна прызналася, што згублена каля 20% долі на расійскім рынку.

Натуральна, што страты кампенсуюцца дыверсіфікацыяй паставак (напрыклад, экспарт у краіны ЕС летась вырас на 0,6%) і спробамі павялічыць продажы на ўнутраным рынку. А сэканд-хэнд тут, улічваючы ўзровень жыцця ў Беларусі, з'яўляецца непажаданым канкурэнтам.

Дарэчы, крыху заробяць прадпрыемствы «Беллегпраму» на каронавірусе. Там паведамляюць, што ўжо пастаўлена на замову, перадусім «Белмедтэхніцы» і «Белфармацыі», амаль 400 тысяч медычных масак.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Вайна і вірусы

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Беларусь, як і ўвесь свет, з жахам глядзіць на каронавірус. Тэма, шчыра кажучы, ужо нават надакучыла. Мая свякроўка, як толькі чуе пра гэты вірус па тэлевізары, адразу яго выключае. Бо — зашмат. Ёсць і іншыя праблемы ды цікавыя тэмы.**



Фота www.kavpolit.com

Тым часам паведамляецца, што медыкі пацвердзілі чацвёрты выпадак каронавіруса. Хворы — грамадзянін Беларусі, ізаляваны для назірання, ён быў у цесным кантакце з адным з інфікаваных. Яшчэ два тэсты пацыентаў, якія адносяцца да кантакту першага ўзроўню, папярэдне дэманструюць станоўчыя вынікі. Праводзіцца ўдакладняючая лабараторная дыягностыка, усе пацыенты пад наглядам, адчуваюць сябе яны здавальняюча.

Шмат пішуць, што COVID-19 (такую назву дала хваробе Сусветная арганізацыя аховы здароўя) па ўсім свеце захварэлі каля 90 тысяч чалавек. Але мала хто кажа, што 50 тысяч захварэлых ужо паспяхова вылечыліся. Таму заражэнне каронавірусам — зусім не гарантыя смяротнага заканчэння.

Панікаваць, па-ранейшаму, наўрад ці варта. У прынцыпе, для супрацьдзеяння гэтаму вірусу дастаткова звычайных антыгрыпозных мерапрыемстваў. Мыць рукі і прадукты перад ежай, больш бываць на свежым паветры, пазбягаць натоўпаў людзей і памятаць, што гэты каронавірус (як, дарэчы, і звычайны) пагражае людзям з паслабленым імунітэтам. Так што — піце вітаміны і падтрымлівайце свой арганізм.

А па-за каронавірусам у краіне адбываюцца цікавыя рэчы. Аляксандр Рыгоравіч чарговым разам правёў «нафтавую нараду». Традыцыйна закінуў прэтэнзіі ў бок Расіі: маўляў, «асобныя дзяржавы зразумелі, што пры дапамозе вентыля на нафтавай трубе выгадныя ім пытанні вырашаюцца значна лягчэй»... Умовы пастаўкі нафты ва ўльтыматыўнай форме ўвязваюцца з іншымі праблемамі, якія хоча вырашыць краіна-пастаўшчык. Адбываецца гэта без аглядкі на дзеючую дагаворную базу і прынцыпы пабудовы нашых адносін».

Але варта звярнуць увагу і на іншыя словы беларускага правадыра. Напрыклад, на тое, што «мы самі вінаваты, што не дыверсіфікавалі ў свой час пастаўкі нафты. Манапалізм заўсёды прыводзіць да падобных вынікаў... Каля 40%, можа быць, 50% будзем па-ранейшаму купляць нафты ў Расіі (калі Расія захоча), калі канчаткова дыверсіфікуем. А па 30% можам купляць з партоў Балтыкі і з Адэсы. Гэта будуць тры крыніцы... Патрэбныя комплексныя і сістэмныя інфраструктурныя рашэнні. Варта прадумаць магчымасць рэалізацыі сумесных праектаў з замежнымі кампаніямі — уласнікамі сыравіны».

Па-першае, Лукашэнка вельмі не любіць прызнаваць уласныя памылкі. Але цяпер, схаваўшыся за словам «мы», ён прызнаў — арыентацыя на танную расійскую нафту завяла краіну ў пастку, з якой хочаш — не хочаш, а давядзецца выкараскавацца. Па-другое, ён вымушана, але прызнаў, што «іржавая труба» (як ён казаў, калі прадаваў «Белтрансгаз» Маскве) усё ж нечага каштуе. І, па-трэцяе, кажучы пра «інфраструктурныя рашэнні», падаецца, ён зразумеў ідэю Балта-Чарнаморскага калектара, якую 25 гадоў таму прапанавала Партыя БНФ і якую ён у тыя часы адчайна крытыкаваў.

Адным з такіх праектаў, паводле словаў Лукашэнкі, павінна стаць дабудова нафтаправода да Балтыкі. Размова, верагодна, ідзе пра закансерваваны нафтаправод Унеча — Вентспілс. Кіраўнік краіны запатрабаваў узяць танны крэдыт у ЗША (дзяржаўны сакратар Майк Пампеа, нібыта, сам яму гэта прапанаваў) і за 2 гады максімум прывесці гэты нафтаправод у парадак.

Фактычна, гэта азначае, што курс на тое, каб саскочыць з маскоўскай «нафтавай іголкі» — доўгатэрміновы. І наўрад ці ён будзе змяняцца, нават калі мы замірымся з Расіяй. Што, канешне ж, карысна — калі планы будуць увасобленыя ў жыццё.

Адзінае, што выклікала недаўменне ў народзе, — гэта змена віцэ-прэм'ера, які адказвае за нафтахімічны комплекс. Лукашэнка зняў Ігара Ляшэнку і прызначыў адказным за нафтавую галіну Юрыя Назарава — былога старшыню канцэрна «Беллеспаперапрам», лясніка па адукацыі і прафесійнай дзейнасці. Вельмі дзіўнае рашэнне, таму што ва ўсіх на слыху скандалы з нашымі «паперовымі» прадпрыемствамі ў Добрушы, Шклове і Салігорску. Дый «мадэрнізацыя дрэваапрацоўкі», для якой уводзілася, па меркаванні прафсаюзаў, «прыгонные права» на прадпрыемствах гэтай галіны — даволі неадназначная.

У байнэце некаторыя нават жартуюць, што ў прызначэнні ёсць логіка: маўляў, замест нафты і бензіну краіна пераходзіць на лес і дровы.

З гэтага ўзнікаюць пытанні. Напрыклад, ці ёсць у Аляксандра Рыгоравіча спецыялісты, якія здольныя ажыццявіць маштабны праект па дыверсіфікацыі нафтавых патокаў і будаўніцтве таго самага Балта-Чарнаморскага калектара? Ці неператворыцца гэта ў чарговую «мадэрнізацыю», ад якой мы страцім больш, чым прыдбаем?

Між тым, даволі слушная рэч была зроблена ў дачыненні да бензіну. Быў падпісаны ўказ №84 «Аб акцызах на аўтамабільнае паліва». З 1 сакавіка стаўкі акцызаў на аўтамабільныя бензіны і дызельнае паліва павысіліся ў 4 разы. Адначасова «ў мэтах недапушчэння росту рознічных цэн» для пэўных плацельшчыкаў да ставак акцызаў прымяняецца каэфіцыент 0,25. Да ліку такіх плацельшчыкаў адносяцца беларускія нафтаперапрацоўчыя прадпрыемствы.

Сутнасць гэтых захадаў — фактычна прымусіць расійскія кампаніі, якія валодаюць сеткамі АЗС на тэрыторыі Беларусі, пачаць пастаўку нафты на беларускія НПЗ на давальніцкіх умовах дзеля забеспячэння сваіх сетак АЗС нафтапрадуктамі па цэнах, здольных канкураваць з цэнамі беларускіх аператараў. Расійскія кампаніі, якія валодаюць сеткамі АЗС у Беларусі, пастаўленыя перад выбарам: або гандляваць імпартаваным з Расіі бензінам па завышаным коштце, ці паставіць давальніцкую нафту на беларускія НПЗ на ўмовах беларускага боку.

Некаторыя адмыслоўцы нават не выключаюць, што праз пару тыдняў канцэрн «Белнафтахім» спыніць пастаўкі нафтапрадуктаў на аўтазаправачныя станцыі расійскіх кампаній, спаслаўшыся на дэфіцыт нафтапрадуктаў або іншыя форс-мажорныя абставіны.

Канешне, з расіянамі паступілі даволі жорстка. А што рабіць, у нас усё ж «нафтавая вайна», ці не так?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Надзея Дземідовіч



**Сябра Саюза беларускай моладзі, зняволеная сталінскіх лагераў паэтка Надзея Дземідовіч памерла на 94-м годзе жыцця.**

Надзея Дземідовіч нарадзілася 24 лютага 1927 года ў вёсцы Мажэйкава Слонімскага раёна. Падчас вайны вучылася ў беларускай прагімназіі ў Слоніме. Уваходзіла ў Саюз беларускай моладзі. Пасля пачатку рэпрэсій супраць сяброў СБМ у 1944 годзе чатыры гады хавалася ў сваякоў, а ў 1948 бацькі пераправілі дачку ў Казахстан.

Арыштавалі Надзею Дземідовіч у верасні 1949 года ў Петрапаўлаўску і асудзілі на 25 гадоў лагераў.

Яна перажыла катаванні электратокам, удзельнічала ў Кенгірскім паўстанні вязняў.

Вызвалілі Надзею Дземідовіч у 1956 годзе. Яе так і не рэабілітавалі.

У яе хаце ў Калодзішчах пабывалі многія вядомыя беларусы — паэты Сяргей Грахоўскі, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, перад ад'ездам завітваў Зянон Пазняк. Жанчына нязломнага духу і спакутаванага сэрца не губляла надзеі, што Беларусь яшчэ будзе вольнай і па-сапраўднаму незалежнай.

Пасля яе засталіся кнігі вершаў і ўспамінаў: «Век так не будзе» (2002), «Успаміны сэрца майго» (2006), «Мы марылі дома спаткацца» (2010), «Кенгір» (2012).

Светлая памяць...

## Павел Белавус



**Стваральнік знакамітай беларускай патрыятычнай крамы symbal.by нечакана трапіў у цікавую і ў нечым смешную сітуацыю.**

Крама беларускіх падарункаў і сувеніраў symbal.by нечакана для сябе даведалася, што сябры дзяржаўнай моладзевай арганізацыі БРСМ цяпер маюць у ёй зніжку ў 10%. Гэта адбылося з-за таго, што крама далучылася да праграмы Autohelp.

«Далучылі мы symbal.by да дысконтнай праграмы Autohelp і даведаліся, што па гэтай праграме цяпер і ва ўсіх сяброў БРСМ ёсць у нашай краме зніжка 10%, бо фактычна сяброўскі білет БРСМ — гэта дысконтная картка са зніжкамі. Так што цяпер будзем агітаваць брсмаўцаў прыходзіць у нашу краму за сцягамі, рэчамі з "Пагоняй" і вышыванкамі», — напісаў у Фэйсбуку Павел Белавус.

Крама Symbal.by, як пазначана на яе сайце, — гэта «пляцоўка, якая займаецца папулярызацыяй і пашырэннем рэчаў і з'яў, якія прысвечаныя беларускай мове, культуры і гісторыі. На пляцоўцы размешчаныя рэчы, якія створаныя беларусамі і па-беларуску, дыхаюць беларушчынай, народным каларытам ды здаровым патрыятызмам». У ёй можна набыць тавары з патрыятычнай сімволікай, у тым ліку бел-чырвона-белыя сцягі.

## Арына Сабаленка



**Першая ракетка Беларусі прэтэндуе на званне лепшай тэнісісткі лютага. Пра гэта паведамляецца на сайце Жаночай тэніснай асацыяцыі WTA.**

Сабаленка заваявала тытул на прадстаўнічым турніры ў Досе. Для беларускі гэта шосты тытул на турнірах WTA ў адзіночным разрадзе, трэці — на спаборніцтвах катэгорыі «Прэм'ер». Разам з беларускай на «лепшую тэнісістку месяца» намінаваныя румынка Сімона Халеп, што выйграла спаборніцтвы ў Дубаі, і Кікі Бертэнс з Нідэрландаў, якая стала першай тэнісісткай, абараніўшы тытул у Санкт-Пецярбургу.

Галасаванне па кандыдатурах завершыцца ў суботу, 7 сакавіка.

Па выніках студзеня лепшай тэнісісткай была прызнаная пераможца Адкрытага чэмпіянату Аўстраліі 2020 года амерыканка Соф'я Кенін. У той жа час 2 сакавіка ВТА апублікавала новы рэйтынг арганізацыі. Арына Сабаленка заняла ў ім 11-е месца. Яшчэ адна знакамітая беларуска, Вікторыя Азаранка, спусцілася з 51 на 56-е месца.

Азбука паліталогіі

# У чаканні выспятка, што падбадзёрыць



Сяргей НІКАЛЮК

**«Лепшае — вораг добрага». Пад такім дэвізам працаваў цэх на «Інтэграле», у якім прайшоў савецкі этап маёй працоўнай біяграфіі. Савецкі Саюз ужо хутка 30 гадоў як знік, але яго прынцыпы арганізацыі жыцця і эканомікі так і не страцілі сваёй актуальнасці.**




Калі што і змянілася, дык гэта тэрміналогія. Цяпер модна ўжываць прыметнік «эвалюцыйны». Галоўная яго вартасць — універсальнасць, таму слова можа выкарыстоўвацца для апісання любой грамадска значнай з'явы. Зразумела, калі гэта з'ява запланаваная і ажыццяўляецца зверху.

Усё, што нарадзілася знізу, самацёкам, без найвышэйшага на тое дазволу, прызнаецца рэвалюцыйным. А гэта Майдан! Гэта «каляровая» рэвалюцыя! А паколькі лепш за адзінага палітыка (АП) у рэвалюцыях у Беларусі ніхто не разбіраецца, то даю яму слова: «Беларускі народ на сваім вопыце ўсвядоміў, што за рэвалюцыяй (усё роўна, якога яна колеру) няма ніякай сілы, акрамя цёмнай. Менавіта таму ён падтрымаў палітыку паступовых пераўтварэнняў і цвёрдых сацыяльных гарантый, мір і парадак у краіне, дысцыпліну на вытворчасці і моцную, эфектыўную ўладу. Уладу, якая здолела стварыць умовы для годнага жыцця і спакойнай працы. Гэта — выбар мудрага народа. Гэта — гістарычны выбар Беларусі».

«Выбар мудрага народа» аформлены ў рашэннях трох канстытуцыйных рэферэндумаў і пяці Усебеларускіх народных сходаў. Каб не стамляць чытачоў, звярнуся да рэзалюцыі апошняга, пятага сходу, якая ўтрымлівае, у прыватнасці, наступны пункт: «Заахвочванне ініцыятывы і падтрымка прадпрымальніцтва будуць спрыяць стварэнню новых працоўных месцаў, росту дабрабыту грамадзян і іх самарэалізацыі ў інтарэсах беларускага грамадства».

Прайшло пяць гадоў. Статыстычныя штогоднікі Белстата даюць нам магчымасць ацаніць, наколькі расквітнела беларускае прадпрымальніцтва, што заахвочваецца моцнай і адначасова эфектыўнай уладай. Прасцей за ўсё гэта зрабіць з дапамогай дынамікі даходаў ад прадпрымальніцтва.

Калі ў 2000 годзе ўклад прадпрымальніцтва ў сукупныя даходы насельніцтва склаў 15,4%, то ў 2015-м — 8,2%. За чатыры наступныя гады гэты паказчык не змяніўся (інфармацыя за 2020 год, зразумела, яшчэ адсутнічае). У лідарах росту ў структуры даходаў аказаліся аплата працы (з 59,8% да 64,3%) і трансферты насельніцтву (з 19,4% да 22,8%).

Такім чынам, нацыі прадпрымальнікаў з беларусаў не атрымліваецца. Больш за тое, статыстыка дэманструе адваротны працэс. З кожным годам сярод эканамічна актыўных грамадзян расце доля тых, хто працуе «на дзядзьку», і тых, хто сілкуецца ад шчадротаў дзяржавы. Імя «дзядзькі» і адначасова галоўнага дабрадзея, што раздае народу хлеб, мяркую, усім добра вядомае.

У тых, хто знаёмы з тэорыяй і практыкай пабудовы беларускай мадэлі, такая дынаміка не павінна выклікаць здзіўленне. Яна — наша ўсё. Без яе ад донара еўрапейскай стабільнасці засталіся б адны ўспаміны.

### Каму патрэбныя такія рэформы?

Студзеньскае падзенне ВУП на 1,9% чарговым разам стымулявала размовы пра неабходнасць рэформаў. Шкада толькі, што вядуцца яны выключна экспертамі, якія не маюць дачынення да прыняцця рашэнняў. На верхнім паверсе ўладнай вертыкалі які ўжо год працягваюць выконваць оду «роўным эканамічным умовам».

На думку АП, галоўнай умовай для правядзення паспяховых рэформаў з'яўляецца наяўнасць стартавага капіталу. Іншымі словамі, рэформы — выбар багатых краін, беднякам жа і серадняка́м лепш за ўсё стаіцца і чакаць. Вось як свой арыгінальны погляд на рэформы адзіны палітык абгрунтаваў у Пасланні–2017: «У нас няма грошай рызыкаваць, ісці на нейкія рэформы. А раптам правалімся? У Расіі — магчыма. У Кітаі — небяспечна, у іх вялікае насельніцтва. У Амерыцы — магчыма. У Расіі — таму што вялікія рэсурсы. Памыліліся, выправілі. Таму што грошы ёсць. У Амерыцы памыліліся — надрукавалі. Увесь свет за гэта заплаціць. Вы ж разумееце. А мы чым потым дзіркі будзем закрываць? Таму я заўсёды быў акуратны і асцярожны».

Паспяховыя рэформы пачынаюцца з адказу на пытанне: «Каму гэта трэба?» Але перш, чым на яго адказаць, неабходна дамовіцца наконт таго, што трэба разумець пад рэформамі. І тут магчымыя варыянты... Гістарычны вопыт, аднак, сведчыць, што паспяховымі рэформы бываюць толькі ў тым выпадку, калі вырашэнне пытанняў, якія стаяць перад грамадствам, пачынаюць шукаць на шляхах пашырэння прасторы індывідуальнай свабоды і асабістай адказнасці.

Каму ў сучаснай Беларусі патрэбныя такія рэформы? Гаспадару Палаца Незалежнасці? Няўжо ў яго не хапае дроў для ацяплення кабінета?

Адкрываю статыстыку. У графе «Гранулы паліўныя (пялеты) з пілавіння або іншых драўняных адходаў» за студзень бягучага года адзначаны рост на 33,4%! Але акрамя паліўных гранул маюцца і паліўныя брыкеты, вытворчасць якіх скарацілася на 12,6%. Але я не спяшаўся б непакоіцца з гэтай нагоды, бо запасы брыкетаў на складах — 183,4% да сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці.

Дык у чым пытанне?

### Пытанне адкрытае

Каб распачаць рэформы, эліты павінны спалохацца. Пажадана, спалохацца смяротна. Падобная гісторыя, напрыклад, адбылася з элітамі Прусіі пасля паразы ад Напалеона ў 1806 годзе. Тады Прусія страціла палову насельніцтва і тэрыторыі. Каб выжыць, давялося стварыць масавую прызыўную армію, а для гэтага — вызваляць прыгонных сялян, што, у сваю чаргу, цягнула за сабой цэлы шэраг пераўтварэнняў.

Аднак яны акупіліся сто разоў. Зразумела, не праз год і не праз два. У 1866 годзе, падводзячы вынікі аўстра-прускай вайны, яе пераможца Ота Бісмарк нібыта сказаў: «Войны выйграюць не генералы, войны выйграюць школьныя настаўнікі і парафіяльныя святары», — гэта значыць, тыя людзі, якія заняты фарміраваннем асобаў.

Ці на самай справе прамаўляў «жалезны канцлер» гэты панегірык на адрас настаўнікаў і святароў або аўтарства яму прыпісалі — цяпер ужо ўсё роўна. На іх актуальнасць гэта ніяк не ўплывае.

Расія ж з вайны з Напалеонам выйшла пераможцай. «І пакуль немцы клалі шпалы і ўзводзілі домны, — тлумачыць журналіст Канстанцін Гайваронскі, — Мікалай I з замілаваным захапленнем пісаў пра Расію, "якая ідзе смела, ціха, па хрысціянскіх правілах да паступовых удасканаленняў, якія мусяць на доўгі час зрабіць з яе наймацнейшую і найшчаслівейшую краіну ў свеце". Вось так ціха і дашкандыбалі да паразы ў Крымскай вайне. Цяпер ужо Расія атрымала той «выспятак, што падбадзёрыў», які далі прусакам на паўстагоддзя раней.

Без выспятку, што падбадзёрвае, разлічваць на рэформы не даводзіцца. Але ці стане перавод беларуска-расійскіх адносінаў на рынкавыя прынцыпы такім выспяткам — пытанне адкрытае. Калі не, дык давядзецца чакаць наступнага разу.

**Пакуль крах яшчэ не здарыўся, эліта неабходнасці рэформаў не адчувае, яна распачынае рэформы, калі ўжо позна. І сітуацыя імкліва пераходзіць у стадыю «працэс пайшоў», — самастойна, незалежна ад намаганняў эліты**

### Імя гэтага працэсу — РЭ-ВА-ЛЮ-ЦЫЯ

Прыгадаем перабудову. Яна пачалася не праз капрызы канкрэтнага чалавека, хай і надзеленага неабмежаванай уладай, і не пад уплывам інтрыгаў Ракфелераў-Ротшыльдаў. Пасля «гонкі на лафетах» усведамленне, што так далей жыць нельга, апанавала ў Краіне Саветаў усіх. А тут яшчэ цэны на нафту ў шэсць разоў абваліліся.

Склалася сітуацыя, калі не мяняць і не мяняцца было ўжо немагчыма. Неэфектыўнасць сістэмы, якую «будавалі, будавалі і нарэшце пабудавалі», стала відавочная не толькі для будаўнікоў, але і для архітэктараў.

Але тое, што планавалася ў якасці сістэмы рэформаў, як справядліва заўважыў палітолаг Станіслаў Бялкоўскі, вырадзілася ў «набор сутаргавых хаатычных спробаў існуючай улады выратаваць сістэму ад краху — пры поўнай адсутнасці ўсведамлення краху гэтай сістэмы на першым этапе перабудовы, калі здаецца, што ўсё лёгка і весела: "больш дэмакратыі — больш сацыялізму"».

Вось такая праблемка: пакуль крах яшчэ не здарыўся, эліта неабходнасці рэформаў не адчувае, яна распачынае рэформы, калі ўжо позна. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што сітуацыя імкліва пераходзіць у стадыю «працэс пайшоў», г. зн. пайшоў самастойна, незалежна ад намаганняў эліты. Імя гэтага працэсу — РЭ-ВА-ЛЮ-ЦЫЯ.

Згодна з эканамістам Яўгенам Гантмахерам, «рэвалюцыя — гэта доўгі перыяд бязладдзіцы, гэта перыяд, калі не забяспечваецца законнасць, перыяд, калі не збіраюцца падаткі, калі дзяржава не можа выконваць свае функцыі». Дадам ад сябе, дакладней, не ад сябе, а ад АП: «Рэвалюцыя — гэта калі ўлада валяецца ў брудзе».

***

Школьны настаўнік забяспечваў перамогі прускаму «жалезнаму канцлеру». Унёсак беларускага настаўніка ў перамогі АП не меншы, і ўнёсак гэты не абмяжоўваецца працай ва ўчастковых выбарчых камісіях.

Школьны настаўнік — прадстаўнік сацыяльнай эліты, чыя задача палягае ў перадачы практычных узораў паводзінаў з дапамогай прафесійных камунікацый. Калі ў арсенале настаўнікаў сёння мат і рукапрыкладства, дык што нам варта чакаць ад іх учарашніх вучняў, а цяпер «касманаўтаў» у ахоўных шлемах ды ўзброеных дручкамі?

# Не важна, як галасуюць, важна, як лічаць

**Хутка пачнецца чарговая электаральная кампанія. Пакуль адны спрабуюць вызначыцца з «адзіным» кандыдатам ад апазіцыі, іншыя адзначаюць, што сэнсу ў выбарах няма, і абвяшчаюць ім байкот. Бо галоўная праблема — у непразрыстай сістэме падліку галасоў на выбарчых участках і фальсіфікацыях.**

У рэдакцыю «Новага Часу» трапілі нататкі Ірыны Гусевай, якой давялося быць назіральніцай на выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў у лістападзе 2019 года. Прапануем іх вашай увазе ў скарачэнні.

## Датэрміновае галасаванне

### Дзень першы, аўторак

Ранак першага дня датэрміновага галасавання. На ўчастак прыбег у прамым сэнсе натоўп карэспандэнтаў — збіраюцца здымаць галасаванне юнай веласіпеднай чэмпіёнкі.

Старшыня выклаў на стол Канстытуцыю і прыцягнуў усеагульную ўвагу да гэтага жэсту. Потым чамусьці спрабаваў прыбраць, як нелегітымныя, улёткі з біяграфічнымі дадзенымі кандыдатаў. Давялося яму сказаць, што такая інфармацыя можа знаходзіцца на ўчастку ў момант галасавання. Пагадзіўся — і зноў расклаў на століку ўлёткі.

Я гатовая падтрымаць гульню. У мяне няхай будзе роля прынцыповага і скрупулёзнага назіральніка. Уключылася ў гульню з журналістамі і ў натоўпе карэспандэнтаў выпадкова выявіла аднаго «бяспашпартнага» тэлеаператара. Той размясціўся каля мяне са сваёй камерай з лагатыпам дзяржтэлеканала (ці то Беларусь 3, ці то Беларусь 4), а я заўважыла, што ён не скіраваўся рэгістравацца разам з астатнімі карэспандэнтамі да стала сакратара. Паказала на яго старшыні, і той пагражаў яго выдаліць. У выніку не выгнаў і пасля тэатральных «пагрозаў» ды маёй настойлівасці сказаў, што гэта яго рашэнне. Ды я і не разлічвала ўсур'ёз, што дзяржаўны карэспандэнт будзе выдалены з участку.

Прайшлі ўрачыстыя здымкі, чэмпіёнка прагаласавала. Камісія адарыла яе за гэта нейкім крышталёвым салатнікам.

Старшыня працягвае адыгрываць ролю законапаслухмянага. «Я вам слова не даваў», — такой прыгожай фразай нібыта спыніў выпад у мой адрас ад камісійнай дамы. «Мы, што з-за яе да ночы павінны бюлетэні лічыць?» — менавіта такой была яе рэакцыя на маю прапанову аб празрыстым спосабе падліку галасоў.

Да абеду прайшлі 9 выбарцаў, вечарам калега налічыла цэлага аднаго. Усяго 10 выбарцаў праявілі электаральны энтузіязм першага дня галасавання.




### Дзень другі, серада

Дзень аказаўся больш багатым на падзеі і ўражанні, праявіліся першыя прыкметы нервовасці камісіі.

Сяджу моўчкі, нікуды не адыходжу. Камісія такога відавочна не чакала. Сёння галоўную ролю ў апанентаў выконвае камісійная дама — тая, што не хацела галасы да ночы лічыць.

Пачатак дзяжурства. Камісійная дама падымае мяне з назіральніцкага крэсла словамі: «Не бойцеся — я вам нічога дрэннага не зраблю, мне трэба гадзіннік падвесці». Залазіць на крэсла і папраўляе адсталыя гадзіны.

Разам са мной дзяжураць новыя назіральнікі — мужчына і жанчына з той жа вучэльні, дзе размяшчаецца ўчастак, яны прыйшлі без верхняй вопраткі, у адрозненне ад учорашніх назіральнікаў, якія прыходзілі ў куртках. Жанчына села бліжэй да мяне — і ў мяне пачаўся дакучлівы кашаль. Такая непрыемная рэакцыя майго арганізма на некаторыя віды парфумы, нават калі самога паху і не адчуваю.

Камісійная ж дама імгненна адрэагавала: «Вы нас тут заразіце за гэтыя дні! Я вельмі адчувальная да інфекцыі!» Тлумачу, што гэта алергія на пахі. Не верыць, спрабуе даказаць, што ніхто з прысутных ніякай парфумай не карыстаўся.

Наступны акт — камісійная дама падскоквае да мяне са словамі: «Вы нас здымаеце на камеру!» Паказваю на тэлефон, які ляжыць паверх майго партфеля, што стаяў пад маім крэслам. Дэманструю выключаны тэлефон, паказваю ёй на залішнюю падазронасць. Жанчына не супакойваецца: «А можа ў вас у партфелі бомба?!». З усмешкай прапаную ёй агледзець мой партфель. Мой спакойны ды добры настрой яе відавочна злуе.

У той жа самы час астатнія назіральнікі (як і сябры камісіі) увесь час «калупаюцца» ў сваіх тэлефонах — чытаюць, гуляюць. Трымаюць у руках уключанымі і накіраванымі якраз у бок стала камісіі.

Галасаванне зноў млявае, працы няма ні ў мяне, ні ў камісіі. Сакратар, а затым і камісійная дама па чарзе сыходзяць з участку, пакінуўшы камісійнага мужчыну аднаго. Паказваю яму на парушэнне — менш за два чалавекі знаходзіцца ў камісіі, што працуе на выбарчым участку. Маўчыць, хітра ўсміхаецца. Праўладная назіральніца паспяшалася яму на дапамогу са словамі: «Бо няма нікога». Аналагічным чынам прарэагавалі і нетаропка вярнуліся сяброўкі камісіі, калі мужчына паведаміў ім аб маёй заўвазе.

Вядома, няма тут нікога. 5 чалавек раніцай, 6 прыйдзе ўвечары, за 7 гадзін працы ўчастка — 11 выбарцаў. Гэта што, хіба наплыў наведнікаў? Але дзеля справядлівасці адзначым — электаральны энтузіязм насельніцтва ўзрос-такі на 10% у параўнанні з папярэднім днём галасавання (+1 чалавек!).

Заключным акордам дня было гучнае падзенне гадзінніка са сцяны дакладна ў момант заканчэння майго дзяжурства. Камісійная дама — адразу з абвінавачваннем у мой адрас: «Будзеце цяпер плаціць, вы наш гадзіннік зламалі!» Спакойна цікаўлюся: «Якім чынам зламала?» Добра, што я нават прыўстаць з крэсла не паспела, а то б сапраўды сталі даставаць з псаваннем іх маёмасці.

Камісійная дама бурчыць, збірае абломкі гадзінніка. Заслона.

### Дзень трэці, чацвер

Зноў сяджу моўчкі, па прычыне адсутнасці выбарцаў назіраю за камісійнай дамай, якая дзесяць разоў пералічыла некалькі чыстых бюлетэняў у сябе на стале і дзесяць разоў пераслінавіла лісты спісаў выбаршчыкаў. Дама не вытрымлівае, выбухае: «Што яна на мяне глядзіць? Я звяраю колькасць!» Ды што там спраўджваць — усяго 10 выбарнікаў да абеду. Можна было за чатыры гадзіны вывучыць прозвішчы і нават падрабязнасці іх біяграфій.

У адказ на гэты пасаж з усмешкай прашу прысутнага пры гэтым старшыню засцерагчы мяне ад бессэнсоўных нападак сябра камісіі. Адказ старшыні быў проста шэдэўральны: «А вось не буду агароджваць... А вось цяпліце іх нападкі... Як вы да нас, так і мы да вас». Цікаўлюся ў старшыні, што ён мае на ўвазе пад апошняй фразай. Звяртаю яго ўвагу на тое, што я трэці дзень сяджу моўчкі (!) і выконваю ўскладзеную на мяне функцыю назірання. Камісійная дама не сціхаецца: «Вось менавіта моўчкі. Лепш бы вы размаўлялі... У нас усякія былі назіральнікі і дрэнныя, і добрыя, але такіх яшчэ не было».

Старшыня са мной размаўляць не гарыць жаданнем, а спешна збіраецца сыходзіць, гучна (для мяне!) папярэджвае камісію аб неабходнасці прысутнасці не менш як 2 сябраў на ўчастку. Камісійная дама ў адказ бубніць, што з-за мяне яна цяпер не зможа схадзіць у прыбіральню і будзе насіць памперс, а таксама будзе мыцца святой вадой кожны вечар. Апошнюю фразу ўспрымаю як камплімент.

У 14 гадзін чакаю ля выхаду старшыні і задаю яму пытанне: «Чаму цалкам канстытуцыйны працэс назірання выклікае агрэсію сябраў камісіі, прычым, агрэсію вамі ўхваленую?» Яго адказ выяўляе яго істэрыку: «Не буду адказваць на гэтае пытанне! Мы, можа, і дрэнныя, але таксама людзі!» Уцякае.

Электаральная актыўнасць працягвае нарастаць — ужо цэлых 15 выбарнікаў за дзень. Камісія чамусьці ўвечары сарамліва прыпіша дваіх — па іх дадзеных, прагаласавалі 17 чалавек за дзень.

### Дзень чацвёрты, пятніца

Прыходжу раней за камісію, вахцёр на ўваходзе спрабуе спыніць словамі: «Там нікога яшчэ няма». Адказваю, што нічога страшнага, пастаю побач з міліцыянтам. Участак размешчаны на другім паверсе спартыўнай вучэльні ў адным з кабінетаў. Ключы ад кабінета відавочна маюцца не ў адзіным экземпляры. Ні на ноч, ні на абедзенны перапынак кабінет ні разу не апячатваўся. У першы дзень назірання спытала ў старшыні, чаму той не апячатвае. Адказаў, што ніколі гэтага не рабіў — і заканадаўства не патрабуе. Мой каардынатар пацвердзіў — не патрабуе. Вядома, а які сэнс? Што, хтосьці старшыню не пусціць у гэты кабінет у пазаўрочны час? Ён сам потым і скрыню ды сейф здольны такой жа паперкай заклеіць, можа і апячатаць усё хоць сто разоў — пячатка ж ягоная.

Камісія з ранку падпісала штук 50 бланкаў бюлетэняў для галасавання. Ідзе другая гадзіна галасавання, выбарнікаў няма.

Праўладная назіральніца міла гутарыць з камісіяй, абменьваецца газетамі для чытання, спрабуе падгледзець, што ж я там у нататнік пішу.

Учорашняя назіральніца адпрошваецца ў старшыні сысці з участку крыху раней. Старшыня, заўважыўшы мой яхідны позірк, злёгку збянтэжыўся і адказаў, што ён назіральнікамі не камандуе. Гэта мною вы не камандуеце. А гэтыя назіральнікі ўсе свае. Некаторыя з іх — нават тыя, што прыходзілі з вуліцы, — вітаюцца па-сяброўску за руку з сябрамі камісіі. Старшыня — дырэктар іншай вучэльні, сакратар і частка камісіі — яго супрацоўнікі. Намеснік старшыні — дырэктар вучэльні, дзе і месціцца выбарчы ўчастак, некаторыя сябры камісіі — яго супрацоўнікі. Яшчэ адзін вонкава камісійны мужчына з нейкай установы спартовага кшталту. Зліталваны калектыў. А электаральная актыўнасць насельніцтва да пятніцы згасла — 8 выбарнікаў за дзень.

### Дзень пяты, субота

Ну вось, усё і праяснілася, усё само расклалася па паліцах.

Пры маёй спробе зрабіць тэлефонам фота вывешанага пратаколу папярэдняга дня датэрміновага галасавання старшыня рынуўся на «абарону» нібыта адкрытай і даступнай інфармацыі, практычна грудзямі засланіў пратакол. Пагражаў мне апошнім папярэджаннем і наступным выдаленнем з участку. Пагрозай не абмежаваўся — выбег да міліцыянта, праінструктаваў. Міліцыянт успрыняў «пагрозу стабільнасці» літаральна ды рынуўся мяне неадкладна выдаляць. Старшыні давялося яго спыніць словамі, што гэта не зараз, гэта на перспектыву. Потым быў праінструктаваны намеснік старшыні на ўчастку аб тым, што мяне пры выпадку лепш наогул выгнаць. А якраз менавіта ў гэтага адзінага з усіх сябраў камісіі яшчэ раней мною былі заўважаныя ў вачах рэшткі сумлення. Магчыма, менавіта таму выдаленая я не была. Але я і сама палічыла за лепшае не нарывацца. Нельга ж пакідаць калегу ў адзіноце напярэдадні асноўнага дня выбараў!

А інцыдэнт даў мне нарэшце адказ на пытанне, што цікавіла мяне ўсе мінулыя дні: чаму пры штодзённым праўдзівым вывешванні пратаколаў з нікчэмным адсоткам тых, хто прагаласаваў на большасці ўчасткаў горада, у СМІ гучаць пераможныя рэляцыі пра 27–30% датэрміновых выбаршчыкаў, у тым ліку і ў нашай вобласці? Кідок старшыні на абарону пратакола ад фотафіксацыі ўсё патлумачыў.

І пазл у маёй галаве цалкам склаўся.

Гэта для нас, незалежных назіральнікаў, гэтыя пратаколы вывешваюцца. Кшталту, пацешце сябе, а мы такія вось сумленныя хлопцы ў камісіі. Упэўнена, што наверх ішлі «правільныя», патрэбныя 27–30%. А ў скрыні для датэрміновага галасавання затым цудоўным чынам апынуцца замест 63 бюлетэняў 300, не менш. Кіраўніком выбаркама камісіям быў агучаны пасыл: «Галоўнае — не тое, што бачылі сябры камісіі або назіральнікі, а тое, што ў скрыні».

Падзялілася з нашым каардынатарам сваімі здагадкамі аб двайной «бухгалтэрыі» ўчастковых камісій па справаздачных лічбах пра датэрміновае галасаванне. І што потым у выніковым пратаколе мы ўбачым зусім іншую колькасць датэрмінова прагаласаваўшых. Не верыць, кажа: «Не можа быць, пратаколы ж вывешваліся». Не буду спрачацца. Увогуле, пажывем — пабачым.

Ледзь не забыла: у апошні дзень датэрміновага галасавання было 17 выбарнікаў. За ўвесь перыяд датэрміновага галасавання ў незалежных назіральнікаў зафіксаваны 61 выбарнік, па пратаколе камісіі — 63.

**Падрыхтаваў да публікацыі**
**Яўген Меркіс**

**Працяг будзе**

# «Будоўля «Тамбаза» —

Ксенія ЛІЦВІНОЎСКАЯ

**Ашуканым пакупнікам аблігацый «Тамбаза» абвясцілі пра падпісанне новых дамоваў. Шматпакутны даўгабуд цяпер узводзіць дзяржаўнае Упраўленне капітальнага будаўніцтва (УКБ).**

Трымальнікаў жыллёвых аблігацый (ЖА) запрасілі для заключэння з УКБ дамоваў долевага будаўніцтва. Пакуль гэта датычыцца патэнцыйных жыхароў толькі аднаго з недабудаваных дамоў. Уладальнікі ЖА другога даўгабуда — пакуль у чаканні і невядомасці.

Кампанія-забудоўшчык «Тамбаз» знаходзіцца ў стадыі банкрутства. Яе кіраўнік Леў Хаюцін прысуджаны да 6 гадоў зняволення. У будаўніцтва двух дамоў на вуліцы Багдановіча ў Мінску (ЖК «Аркадзія») уклалі грошы больш за 600 сем'яў. І пагарэлі. Страхоўкі трымальнікаў ЖА шмат якіх выпускаў пераафармілі на паручыцельствы афіляваных фірмаў. Будаўніцтва дамоў спынілася, грымнуў скандал, а людзі засталіся ні з чым. Ні кватэр, ні страховак. Ім прапануюць цяпер падпісаць дамовы на даплаты з УКБ.

Афіляваныя канторы аказаліся неплацежаздольнымі. Пашанцавала толькі тым, у каго гарантыі пад аблігацыі засталіся аформленымі ў страхавых кампаніях. Яны атрымалі выплаты. Аднак страхоўкі не пакрываюць выдаткі, якія давядзецца плаціць на дабудову жылля. Нягледзячы на тое, што людзі па аблігацыях цалкам аплацілі кошт кватэраў.

### Непад'ёмная сума

Перад заключэннем дамоваў прадстаўнікі ўлады сустрэліся з трымальнікамі аблігацый. Было агучана, што будаўнічая гатоўнасць «Слупка» (першы дом) як цэлага аб'екта (а не жылой часткі) — 58 працэнтаў. А максімальны кошт даплаты для дабудовы аб'екта папярэдне вызначаны 703 рублі за квадратны метр. Разлік зроблены зыходзячы з агульнай працэнтнай гатоўнасці аб'екта, які ўключае не толькі жылыя, але і камерцыйныя плошчы. То-бок за кошт пацярпелых і падманутых забудоўшчыкам пакупнікоў спрабуюць дабудаваць і камерцыйныя плошчы.

«Непад'ёмная сума», — кажа Міхаіл, які прыйшоў на сустрэчу з чыноўнікамі ў адміністрацыі Савецкага раёна. Ён уклаў грошы ў аблігацыі на будаўніцтва двухпакаёвай кватэры (81 квадратны метр). «"Тамбаз" правярнуў аферу з пераафармленнем страхоўкі. Гарантыі страхавой кампаніі былі заменены на паручыцельства "АльТэраБуд". Гэта юрыдычная асоба, дзе "Тамбазу" належала доля. "АльТэраБуд" — гэта пустышка такая. Яна нам страхавыя ніяк бы не выплаціла», — сказаў Міхаіл.

Ён з сям'ёй 14 гадоў жыве ў двухпакаёвай кватэры з цешчай і яе сястрой. Нядаўна нарадзілася трэцяе дзіця. З разліку 700 рублёў за «квадрат» на дабудову кватэры трэба знайсці каля 57 тысяч рублёў (26 тысяч долараў).

«Я выкладчык. У мяне і жонкі — педагагічная адукацыя. Нерэальна зарабіць такія грошы, — канстатаваў Міхаіл. — Нам проста няма дзе іх узяць. У нас сітуацыя такая, што калі страхавых не будзе, то мы будзем вымушаныя па ўсіх сваяках пазычаць суму. Але з улікам, што мы хутка аддадзім. Як толькі дом дабудоўваецца, мы мусім прадаць кватэру і адразу раздаць даўгі».

### «Не аддадзім ключы, пакуль не разлічыцеся»

На падпісанне дамовы з заказчыкам, Упраўленнем капітальнага будаўніцтва, адводзіцца два месяцы. «Калі вы не заключаеце па працягу 60 каляндарных дзён дамову, то гэта кватэра ідзе ў свабодны продаж», — адзначыў кіраўнік адміністрацыі Савецкага раёна Юрый Трушчанка.

«Гэта значыць, мы губляем усё, — патлумачыла трымальніца аблігацый Кацярына. — Мы губляем і кватэру, і тыя грашовыя сродкі, якія мы ўнеслі ў 100-працэнтным аб'ёме. Нам нічога не будуць кампенсаваць. Ні рубля. Нашу кватэру проста рэалізуюць іншым пакупнікам. Па камерцыйным кошце, як мяркуецца, каля 3 тысяч рублёў за квадратны метр».

Пасля заключэння дамовы трэба будзе рабіць штомесячныя аплаты. «Па даведках за фактычна выкананыя аб'ёмы прац, — паведаміў дырэктар УКБ Савецкага раёна Валерый Мінчанкоў. — З 12 па 15 чысла кожнага месяца вы абавязаныя прыйсці, забраць гэту даведку і аплаціць да 10-га чысла наступнага месяца». Акрамя разліку за мінулы месяц, у аплату будзе ўключана і 50-працэнтная перадаплата на наступны. За неаплату і пратэрміноўкі прадугледжаны штрафныя санкцыі. «Мы не аддадзім ключы да таго часу, пакуль вы не разлічыцеся», — папярэдзіў дырэктар УКБ. Будаўніцтва дома плануецца завяршыць да восені.

«Потым яны будуць рабіць пераразлік, — кажуць трымальнікі аблігацый. — 703 рублі за квадратны метр — гэта цана недакладная, будзе ўдакладняцца ў канцы на апошняй стадыі будаўніцтва. Раптам яшчэ болей будзе, чым 703 рублі. Ніхто не можа сказаць, што вышэй не будзе. Дамова не мае канчатковай цаны. Прапануюць ката ў мяшку».

Такім чынам, невядома, якую суму для аплаты будуць налічаць штомесячна. І які рахунак выставяць у выніку пасля завяршэння будоўлі. Прапанову людзей спачатку дабудаваць дом, а потым выставіць ім рахунак, улады не сталі браць пад увагу. Указ кіраўніка краіны № 430 як юрыдычная норма права, складзеная з мэтай максімальнага захавання інтарэсаў грамадзян, падманутых нядобрасумленным забудоўшчыкам, не выкананы. Бо ён прадугледжваў выплату людзям страховак па факце надыходу страхавога выпадку да заключэння дамоваў на дабудову з УКБ. Большасць не атрымала ні рубля з-за неплацежаздольнасці залогадавальнікаў, паручыцеляў-афіліянтаў «Тамбаза».







На сустрэчы ў адміністрацыі Савецкага раёна людзі даводзілі чыноўнікам:«Мы ідзем без крыніц фінансавання. Рабіць тыя выплаты, якія вы нам прапаноўваеце, большасць не здольныя».

Жанчына нагадала пра маёмасць «Тамбаза»: «Цяпер прызначаны антыкрызісны ўпраўляючы. Будуць прадаваць кран, які каштуе немалых грошай, здаваць офіс у арэнду. Чаму б вось гэту крыніцу фінансавання не знайсці для пагашэння нашых страхавых аблігацый?»

Іншая жанчына абураецца: «Мы хадзілі ў суды, мы патрацілі свой час, мы патрацілі сваё здароўе, мы патрацілі грошы — і мы атрымалі дулю адтуль. Вось рамкі прававога поля. Значыць, яны не працуюць, гэтыя рамкі прававога поля. Прыдумляйце вы самі гэту ерась. Але не прымушайце нас плаціць яшчэ раз такую суму, мы ўжо заплацілі за жыллё! Гэта вялікая сума. Такой сумы ў мяне, працуючай, напрыклад, няма. І я выхоўваю адна дзіцё. І я не змагу заплаціць гэтыя грошы. І згубіць гэту кватэру, сваё першае адзінае жыллё, я таксама не хачу».

### «Выхаду ў нас няма»

Сям'я Кацярыны жыве ўпяцёх на здымнай кватэры з 2016 года. Кацярына з мужам, яе брат, маці і бабуля. «Мы прадалі адзінае наша жыллё, якое ў нас было, — распавяла жанчына. — Будавалі па жыллёвых аблігацыях, як усе. Усе грошы, якія ў нас былі, яшчэ і пазычылі, мы ўнеслі ў "Тамбаз". Трохпакаёвая кватэра цалкам выкупленая, поўнасцю квітанцыя на ўсю кватэру — аплата 100 працэнтаў. І цяпер нам дзесьці трэба шукаць грошы на дабудову. Яшчэ каля 35 тысяч долараў неабходна будзе даплаціць. Мы будзем спрабаваць узяць крэдыт. Мы ўсё ж такі спадзяемся, што ўлады нас пачуюць. Можа, дапамогуць нейкі льготны крэдыт узяць. Канечне, мы будзем падпісваць дамову. Таму што ў нас няма іншага выбару. Выхаду ў нас няма. Альбо мы губляем наогул усё».

«Тамбаз» замяніў страхавальнікаў, а трымальнікі аблігацый пра гэта нават не ведалі.

— Ад нас гэта не залежала, нас ніхто не запытваў, — падкрэсліла Кацярына. — Нам проста замянілі добрыя страхавыя банкі і страхавыя кампаніі на свае афіляваныя канторы, у якіх увогуле нічога няма — два стулы і адна ручка. І людзей пра гэта не паставілі ў вядомасць. А цяпер чыноўнікі нам: згодна бухгалтарскай справаздачы, страхавое забеспячэнне гэтых фірм на момант выпуску ЖА было дастатковым. Таму Дэпартамент па каштоўных паперах дазволіў іх удзел. А калі страхавыя абавязацельствы аказаліся не выкананымі, яны нам адказваюць — мы нічога не ведаем, мы нічога зрабіць не можам, і ў нас нічога не запытвайце. І выстаўляюць такія даплаты.

***— У суды звярталіся наконт выплат?***

— Канечне, мы ўсе выйгралі суды. Рашэнне суда: выплаціць трымальнікам жыллёвых аблігацый: такому-та такому — такую-та суму. Але грошай няма. Што ж там выплаціць? Хаюцін і кампанія грошы вывелі. Гэта ж будаўнічая піраміда.

Пацярпелыя выказалі прэтэнзіі і да Дэпартамента па каштоўных паперах, які на сустрэчы прадстаўляў яго дырэктар Аляксей Красінскі. Прывялі прыклад, як правяраюць звычайных людзей у банках перад тым, як выдаць крэдыт. Высвятляюць усю паднаготную, патрабуюць розныя даведкі і забеспячэнне. «Вы павінны былі праверыць іх ад і да — "Альтэру", "Інтэрфакт", "Эгал-Інвест" і ўсю гэту шушару. Гэта ж махлярства. Вы што-небудзь зрабілі, скажыце? Гэта вы ім давалі гэтыя аблігацыі. Калі я падпісваў дамову, я быў упэўнены, што мяне абараняе дзяржава. Альбо вы павінны нам былі сказаць — хлопцы, за гэта мы не нясем адказнасці. І мы б не трапілі ў гэту гісторыю».

— Аналагічным чынам дзейнічаем і мы, — адрэагаваў на прыклад з банкамі Аляксей Красінскі. — Калі да нас прыходзіць імітэнт, калі да нас прыходзіць паручыцель, іншая арганізацыя, мы ў іх бярэм афіцыйную дакументацыю. Ёсць аўдыт, які праходзіць у тым ліку таксама паручыцель. Аўдыт пацвярджае дакладнасць...

— Ну добра, ну калі яны ўсё пацвердзілі, усё так добра, дзе ж тады нашы сродкі, якія мы не можам атрымаць? Хацяў усе яны ўжо абясцэненыя.

— Такая сацыяльная адказнасць нашых бізнесменаў, — заявіў Аляксей Красінскі. Прысутныя абурыліся.

На рэпліку, што ўказ, у якім прапісана пра страхавыя выплаты людзям, не выкананы, а іх прымушаюць заключаць дому з УКБ на даплату, кіраўнік адміністрацыі Юрый Трушчанка заявіў:

— Не прымушаюць, вам прапанавалі. Вы не блытайце розныя рэчы. Вы можаце не заключаць дамову. Вы можаце не плаціць. Гэта ваша асабістае права. Кожны сам для сябе прымае самастойнае рашэнне. Гэтаксама, як вы прымалі рашэнне, калі заключалі дамову з «Тамбазам». Вас ніхто не прымушаў.

Трымальнікі аблігацый зноў пачалі абурацца. Кіраўнік адміністрацыі рэзюмаваў: 60 дзён для роздуму. Кожны сам вырашае. Альбо падпісваць дамову, альбо выходзіць з пікетамі на вуліцу — так акрэсліў выбар Юрый Трушчанка. Пацярпелыя трымальнікі акцый ужо правялі пікетаванне Мінгарвыканкама.

### «Уклалі грошы ў абяцанні»

«Людзі, якія аплацілі поўнасцю сваю жылплошчу, аказаліся

# законны крадзеж»

не пакупнікамі кватэраў, а, паводле меркавання дзяржавы, інвестарамі, — адзначыў адзін з пацярпелых. — Яны проста ўклалі грошы ў абяцанні кагосьці дабудаваць ім дом. І потым аказалася, што грошай не хапае ні на дабудову, ні на выкананне сваіх страхавых абавязкаў».

Згодна з заканадаўствам, набыццё жылля для асабістых патрэбаў не з'яўляецца інвестыцыйнай дзейнасцю. Таксама, згодна праспекту эмісіі ЖА, ЖА як каштоўныя паперы з'яўляюцца бездаходнымі. Такім чынам, пры іх куплі няма магчымасці атрымання даходу звыш укладзеных сродкаў у беларускіх рублях. І спроба назваць «інвестарамі» людзей, якія будавалі жыллё па інструменту, прапанаванаму забудоўшчыкам і ўхваленаму дзяржавай, і якія не атрымалі гарантаванае заканадаўствам 100% аплачанае жыллё, — з'яўляецца неабгрунтаваным здзекам.

Як распавялі пакупнікі аблігацый, «Сцяне» (другі недабудаваны дом) са страхоўкамі пашанцавала болей. У адрозненне ад «Слупка», дзе людзі не атрымалі страховак, а зрабіць даплаты (без выплаты страховак) УКБ патрабуе да пачатку жніўня, у «Сцяне» выплаты атрымалі каля 70% пакупнікоў ЖА. Аднак іх становішча ўскладняецца больш працяглым тэрмінам чакання дабудовы. Мяркуецца, што «Сцяну» здадуць у 2022 годзе.

Праблема, якая датычыцца ўсіх пакупнікоў у абодвух дамах — адсутнасць магчымасці прадаць кватэру ў любы момант на свабодным рынку ў выпадку, калі не ўдасца знайсці грошы на дабудову. Падманутыя ўладальнікі аблігацый кажуць, што знаходзяцца цяпер у «цісках пакутлівага выбару». Альбо даплата Упраўленню капбудаўніцтва за дабудову, за ўжо заплачанае «Тамбазу» жыллё. Для «Слупка» — яшчэ +42% (працэнт негатоўнасці дома). Аплаціць кошт прац, якія выставіць УКБ, у сціслы тэрмін да жніўня 2020 года. Альбо страта гэтага жылля — з далейшым перапродажам кватэр Упраўленнем капбудаўніцтва па камерцыйнай цане. Без кампенсацыі людзям, падманутым былым забудоўшчыкам — іх проста пазбавяць купленай у «Тамбаза» кватэры.

— Чаму такое бязмежжа магчыма? — кажа ўладальніца аблігацый Надзея. — Аказваецца, УКБ, якое забрала на сябе дабудову, не нясе ніякай адказнасці па абавязацельствах «Тамбаза». Тады ўзнікае пытанне: на падставе чаго УКБ атрымала права на маёмасць «Тамбаза» (недабудаваныя дамы)? Калі гэта маёмасць узведзеная за кошт грошай пакупнікоў жылля. А УКБ да перадачы яму аб'екта, з працэнтнай гатоўнасцю цэлага аб'екта ў 58%, не ўклала ў яго ні капейкі сваіх грошай? І як магчыма, што рэалізаваць кватэру па камерцыйным кошце УКБ можа, а кампенсаваць затраты пакупніку яе ў «Тамбаза», у якога УКБ кватэру можа забраць, — не? Чаму правы перапродажу жылля рэалізаваны без абавязацельстваў УКБ кампенсаваць укладзеныя пакупнікамі грошы?

Уладальнік аблігацый Андрэй будуе чатырохпакаёўку ў «Сцяне»: «Я прадаў сваю трохпакаёвую кватэру. Купіў на 110 тысяч долараў 105 аблігацый. На 105 квадратных метраў. Аблігацыямі поўнасцю адразу заплаціў. І ўсё. І застаўся ні з чым. У 2013 годзе гэта было. Усемярых жывем у двухпакаёвай кватэры. Двое дзяцей, бацькі, і яшчэ брат жонкі.

Я быў застрахаваны ў дзяржаўнай арганізацыі. Я атрымаў страхоўку, але яна ўсё роўна не поўнасцю аплачвае ўсе мае страты. Мяркую, прыкладна 60 тысяч долараў мне трэба будзе даплаціць. А страхоўка — каля 25 тысяч долараў. Яшчэ 35 тысяч усё роўна маіх трэба аддаць. І ў выніку, калі я атрымаю кватэру, шчыра кажучы, не ведаю, што далей рабіць. Я, можа, яе прадам і куплю другаснае жыллё, хутчэй за ўсё».

Іншы пацярпелы, Віктар Міхайлавіч, распавёў пра будаўніцтва ў «Слупку». «Выкупілі аблігацыі на трохпакаёвую кватэру. Патраціў 120 тысяч долараў. А калі ўсё скралі, потым гэты "Тамбаз" і "Альтэру" разагналі, і няма з каго спытаць. І зараз мы нуль атрымалі. Сын хадзіў купляць аблігацыі: "Тата, я ўсё купіў, усё нармальна". Я кажу: "Мы не праляцім, нас не пракінуць?" Ён кажа: "Ды мы застрахаваны дзяржавай, ты што?" Вось так былі застрахаваны. Галоўнаму мафіёзі суд даў 6 гадоў. І ўсё. Ну, цяпер, я думаю, што будзе амністыя, і Хаюціна выпусцяць.

Мы не згодны з сумай даплаты. Таму што завышаныя цэны. Наша кватэра была пабудаваная ўжо — трэці паверх гатовы. А тут яны кажуць — даплачваць. За што я буду даплачваць? Што ўнізе яны пабудавалі там нейкі бар? (адміністрацыйна-гандлёвы цэнтр. — Рэд.) Мы заплацілі грошы, каб пабудаваць сабе кватэру. Жылую, правільна? Хоць там цэнтр IT няхай будуюць, мяне гэта не павінна хваляваць».

«Тамбаз» узводзіў «Слупок» з камерцыйнымі памяшканнямі на ніжніх паверхах. Таксама будуецца яшчэ паркінг-стаянка. Трымальнікі акцый даводзяць, што ў камерцыйныя плошчы ўкладаюцца іх грошы:

«Аб'ект, яны палічылі, гэта не проста жылая частка. Аб'ект — гэта і камерцыйныя плошчы, якія нам не будуць належыць. 703 рублі за квадратны метр — гэта кошт для ўсяго аб'екта, для жылой і нежылой часткі. Начальнік УКБ гаворыць, што мы не збіраемся вашы грошы прыцягваць на будаўніцтва камерцыйных плошчаў. Аднак цану сфарміравалі менавіта з таго, што працэнт недабудовы агульны будзе класціся на нас. Мы зноў уносім грошы ў будаўніцтва гэтых камерцыйных плошчаў. Яны будуць будаваць камерцыйныя памяшканні за наш кошт, але нам яны належаць не будуць».

## «Нашы дамы — гэта як сімвал барацьбы»

Людзі падпісалі звароты да старшыні Мінгарвыканкама і да кіраўніка Камітэта дзяржкантролю. Яны просяць «спыніць антызаконныя дзеянні адміністрацыі Савецкага раёна г. Мінска». Працягнуць будаўніцтва за кошт бюджэтнай пазыкі, якая прадугледжаная ўказам. Дамовы з УКБ заключаць пасля зацвярджэння зменаў ва Указ №430, якія ўжо рыхтуюцца (напрыклад, уносіцца прапанова пра льготнае крэдытаванне). Кошты даплат вызначыць пасля завяршэння будаўніцтва (на падставе фактычнай сумы выдаткаў на дабудову жылой часткі, а не аб'екта ў цэлым). А таксама пасля рэалізацыі маёмасці «Тамбаза», які прызнаны банкрутам, здзейсніць людзям выплаты, эквівалентныя страхавым, якія яны не атрымалі. «У парадку трэцяй чаргі» (а не ў шэрагу апошніх, як прадугледжвалася раней) пасля задавальнення патрабаванняў крэдытораў у дзвюх першых чэргах.

— Няма канкрэтных сумаў. Трэба, каб у нас быў прадмет дамовы. Каб мы ведалі, што, колькі і калі будзем плаціць, — патлумачыла патрабаванні Кацярына. — Нам хаця б ведаць, колькі адзін квадратны метр будзе каштаваць. І каб аддзялілі жылую частку ад камерцыйнай, каб мы плацілі толькі за свае кватэры.

***— Як могуць дапамагчы дзяржаўныя органы?***

— Праіндэксаваць, напрыклад, людзей. Даць ільготны крэдыт. Даць растэрміноўкі. Мы патрабуем празрыстасці разліку квадратнага метра. Таму што цяпер канкрэтнай сумы, вызначанай, стабільнай, няма. Мы б хацелі атрымаць усё ж такі дамову, калі ўжо дабудуецца дом. Калі ўжо мы будзем ведаць, колькі дакладна мы павінны заплаціць, і калі ўжо будуць пабудаваныя камерцыйныя плошчы і рэалізаваныя. Тады гэта будзе справядліва, каб вызначыць, колькі менавіта каштуе адзін квадратны метр жылой плошчы для нас.

***— На што разлічваеце ў далейшым?***

— Мы павінны ўсе кансалідавацца, быць салідарнымі адзін з адным. Таму што мы жывем у адной краіне. Усё ж такі краіна — гэта народ, ён — рухаючая сіла. І мы павінны ўсе адзін аднаго абараняць. Кожны павінен разабрацца, што адбылося. І каб з ім у далейшым альбо з яго блізкімі, сваякамі такое не адбылося. Мы павінны падтрымліваць адзін аднаго, а не заплюшчваць вочы на тую несправядлівасць, якая адбываецца ў нашым горадзе, у нашай краіне. Усё ж такі мы — беларусы, у нас сіні пашпарт, нам ёсць чым ганарыцца. І ўвогуле, я спадзяюся, што ўсё такі наш народ прачнецца. Што мы адстаім сваю краіну і адстаім нашы дамы. Нашы дамы — гэта як сімвал барацьбы.

Як адзначылі ўладальнікі акцый, варыянты, якія выпрацаваныя чыноўнікамі, не ўключаюць гарантый захавання іх кватэраў. «Людзям трэба не дабудова абязлічанага "аб'екта", людзям патрэбна гарантыя, што аплачаныя намі кватэры застануцца нашымі», — падкрэсліла Надзея. Людзі, адзначыла яна, давяралі дзяржаве, якая ўзаконіла спосаб будаўніцтва па ЖА з гарантыяй, што адна аплачаная жыллёвая аблігацыя — гэта адзін квадратны метр жылля. І аплата поўнага метражу кватэры — гарантыя атрымання кватэры. Людзі па максімуму ўклалі свае зберажэнні ў будаўніцтва жылля альбо ўлезлі ў крэдыты. І цяпер большасць не мае фінансавай магчымасці знайсці дадаткова велізарныя сумы для фінансавання затрат УКБ у вельмі кароткія тэрміны.

Людзі нагадваюць, што палажэнне Указу № 430 па выплаце грамадзянам намінальнага кошту ЖА паручыцелямі і залогадавальнікамі («Інтэрфакт», «АльТэраБуд», «Эгал-Інвест» і інш.) не выкананае.

— Калі дзяржава па факце не змагла забяспечыць выплату страхоўкі пры надыходзе страхавога выпадку, то чым вінаватыя людзі, якія і так з'яўляюцца пацярпелымі ў гэтай сітуацыі? — зазначае Надзея. — Чаму фінансавыя праблемы, створаныя забудоўшчыкам, усімі дружна перакідваюцца на пацярпелых? Дапусцім, УКБ — не дабрачынная арганізацыя, як прагучала з трыбуны на адной з сустрэчаў з прадстаўнікамі адміністрацыі, УКБ і іншых ведамстваў. Але чаму ігнаруюцца варыянты, якія шматразова прапаноўвалі пацярпелыя на неаднаразовых сустрэчах з чыноўнікамі? Праз гэта ўзнікае ўражанне, што фармальна здаць «аб'ект» важней, чым лёсы і так ужо спакутаваных людзей, калі разглядаемыя чыноўнікамі спосабы дабудавацца не ўключаюць гарантыю захавання кватэраў? Чаму інтарэсы грамадзян аказваюцца на апошнім месцы? А самі грамадзяне, якія з'яўляюцца пацярпелымі, аказваюцца зусім фінансава не абароненымі дзяржавай і законам?

Ёсць маёмасць забудоўшчыка «Тамбаз». Чаму чыноўнікі не хочуць прыслухацца да прапановы пацярпелых здзейсніць страхавыя выплаты з гэтай маёмасці? Тым людзям, хто не атрымаў страхавыя, у рамках трэцяй чаргі. А потым дзяліць маёмасць, што засталася, сярод крэдытораў 4-й і 5-й чэргаў (у якіх знаходзяцца банкі і страхавыя кампаніі).

І яшчэ адно пытанне. Шмат людзей аказаліся наогул без жылля па віне забудоўшчыка, які не выканаў свае абавязацельствы. Людзі будаваліся за кошт укладання грошай ад продажу жылля горшай якасці, каб палепшыць жыллёвыя ўмовы самастойна. Аднак Мінгарвыканкам ігнаруе прапановы прызнаць пацярпелых маючымі патрэбу («нуждающимися»), якія засталіся без жылля ў гэтай сітуацыі. І ініцыявалі адпаведныя праўкі ў Жыллёвы кодэкс. Нашы афіцыйныя звароты з такой прапановай не прывялі да «канструктыўнага вырашэння» гэтай праблемы.

## «Мы не здаёмся»

Святлана, маці Кацярыны, нагадала, што старшыня Мінгарвыканкама Анатоль Сівак абяцаў, што калі будуць вядомы даплаты, ён індывідуальна будзе размаўляць з кожным. І не адмаўляю магчымасць льготных крэдытаў. Таму трымальнікі акцый збіраюцца цяпер дамагчыся такіх абмеркаванняў са сталічным кіраўніком.

— Вось у нас даплата атрымліваецца больш за 35 тысяч долараў, — сказала Святлана. — Гэта нерэальная для нас сума. Наогул нерэальная. Мы стаялі на чарзе больш за 20 гадоў. Мы прадалі бацькоўскую кватэру, я ўсё жыццё збірала грошы. Ну што рабіць у нашай сітуацыі? У нас гэта адзіная кватэра. А тое, што мы ўпяцёх здымаем маленькую кватэрку, тое, што ў нас такія нязручнасці, гэта нікога не хвалюе.

***— На што спадзяецеся?***

— Я не веру ў справядлівасць у гэтай краіне, я не веру ні ў якія законы, пакуль будзе Лукашэнка ва ўладзе. Я веру ў здаровы розум, толькі Бог нам можа дапамагчы. Я ведаю, што такое жыллёвыя аблігацыі, каштоўныя паперы. Я сама працую галоўным бухгалтарам. Усюды вакол крадуць. Страшэнна крадуць. Крадуць наёмныя дырэктары, таму што жывуць апошні дзень, напэўна, яны думаюць.

І калі б нас было не 80–90 чалавек, як тут на акцыі, а мільён, тады ўсё б змянілася. Тады б народ разумеў, што не мы для ўлады, а ўлада для народа. А пакуль гэта свядомасць у нас вельмі слабенькая. Мы ўсё баімся, на штосьці наракаем. Але я думаю, што мы прачнёмся. У нас прачнецца свядомасць, усё будзе.

Мы не здаёмся. Мы пойдзем да апошняга. Я наогул ніколі нічога не баюся. Я ж не маню, не забіваю нікога — чаму я павінна баяцца? Я адстойваю свае правы на жыццё. Таму што пад мостам я не ўмею жыць. У мяне ёсць маці, дзеці. Я дзяцей заўсёды выхоўвала ў справядлівасці, што ёсць гонар, годнасць. Таму я нічога не баюся.

Будзем яшчэ заклікаць міжнародную грамадскасць. Каб убачылі, якая тут у нас дэмакратыя, якая ў нас тут праўда. Што інвестыцыі сюды нельга ўкладаць. Таму што нас усіх падманваюць — і іх падмануць. Ну каб бачылі рэальную карціну ўсё.

***— Ад чыноўнікаў чаго будзеце дамагацца?***

— Я хачу, каб нашы патрабаванні былі выкананыя. Мы хочам, каб было перагледжана: даплаты — пасля будаўніцтва. І каб камерцыйную нерухомасць, якая пабудавана за нашы грошы, яны ўлічылі ў кошт нашых даплат. Каб не з'явілася яшчэ аднаго алігарха за нашы ж грошы. Таму што яны нам даліся потам і крывёю. Каб не атрымалася так, што яны будуць прадаваць паркінгі, гандлёвыя цэнтры. Мы будавалі, а хтосьці будзе мець грошы. Не ведаю, Сівак, Лукашэнка ці Рымашэўскі. А нам таксама трэба дзесьці жыць, а не пад мостам. Я не хачу быць бамжом. Я не хачу, каб мае дзеці былі бамжамі, каб мая маці была бамжом. І таму я буду змагацца да апошняга.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. Сківаы і паліткарэктнасць

Кіраўніцтва нацыянальнага гістарычнага помніка Маўнт-Вернан — маёнтак першага амерыканскага прэзідэнта Джорджа Вашынгтона, які знаходзіцца ў штаце Пенсільванія, — не вытрымала ціску грамадскасці. Людзі патрабавалі прыбраць з экспазіцыі сківіцу прэзідэнта. Нагадаем, што ў першага гаранта Злучаных Штатаў былі вялікія праблемы з зубамі. Першы зуб Вашынгтону выдалілі ўжо ў 24 гады. Хутка ён пачаў насіць паўнавартасныя ўстаўныя сківіцы. Гэты факт быў часткай міфу пра Вашынгтона да таго часу, пакуль гісторыкі не зацікавіліся асаблівасцямі стаматалогіі канца XVIII стагоддзя. Аказваецца, у тыя часы зубныя пратэзы рабілі ў асноўным з натуральных матэрыялаў, напрыклад, са слановай косці. Але самым лепшым і дарагім матэрыялам лічыліся чалавечыя зубы. Як правіла, гэтыя зубы проста выдзіралі ў рабоў без усялякай анестэзіі. Менавіта такія зубы для сваёй сківіцы набыў і Джордж Вашынгтон. Гэты факт быў вядомы дастаткова даўно, але ўспрымаўся як кур'ёз. Аднак у нашы часы паліткарэктнасці пратэз вырашылі схаваць як мага далей. Застаецца дадаць, што рыкашэтам уся гэтая гісторыя ўдарыла па спадчыне амерыканскай рэвалюцыі. Пішуць пра тое, што сваю прамову на інаўгурацыі на пасаду прэзідэнта Вашынгтон мог прамаўляць ротам, які «быў поўны зубоў, выдраных у рабоў».

**Паводле амерыканскай прэсы**

### АРМЕНІЯ. Выгналі дух трансгендараў

Пасяджэнне Нацыянальнага Сходу Арменіі 25 лютага адзначылася акцыяй былога чальца Савета старэйшын Ерэвана Соны Агекян, якая падчас свайго выступу падпаліла ладан, каб ачысціць парламент ад «нечысці трансгендараў». Праўда, нячысты дух на той момант лунаў у парламенце ўжо амаль год. У красавіку 2019-га там падчас пасяджэння камісіі па правах чалавека выступіў Вагаршак Мартырасян, які лічыць сябе жанчынай Ліліт. Гэты выступ шакаваў кансерватыўную Арменію, каля будынка парламента прайшлі пратэсты. Паступова пра той эксцэс забыліся. Аднак у сувязі з вынясеннем на разгляд парламента Стамбульскай канвенцыі аб прадухіленні і барацьбе з гвалтам у адносінах да жанчын і хатнім гвалтам пра Ліліт узгадалі зноў. На думку кансерватараў, ратыфікацыя Канвенцыі прывядзе да з'яўлення мноства трансгендараў і паставіць пад пагрозу сямейныя каштоўнасці. «Паколькі трыбуна парламента апаганеная, я буду курыць ладан, каб ачысціць яе ад усёй нечысці, якую прынёс з сабой сюды трансгендар», — заявіла Сона Агекян. Прысутныя спрабавалі перашкодзіць жанчыне, спасылаючыся на правілы пажарнай бяспекі, аднак яна давяла сваю справу да канца.

**Паводле армянскай прэсы**

### ЗША. Усё ж яна плоская

Прэса фіксуе незвычайны феномен, які назіраецца пасля трагедыі Х'юза. 64-гадовы Майк Х'юз на працягу некалькіх гадоў збіраў у сябе ў гаражы паравую ракету, каб падняцца над Зямлёй і даказаць, што яна плоская, астранаўты — праплачаныя акцёры, а існуючыя здымкі Зямлі — мантаж. На мінулым тыдні палёт адбыўся, аднак трываў некалькі хвілінаў. Хутка апарат упаў на зямлю разам з Майкам і разбіўся. Дзіўным чынам, але, як піша прэса, смерць Х'юза толькі павысіла папулярнасць забабонаў пра плоскую зямлю. І без таго, паводле апытанняў, кожны шосты амерыканец падзяляе думку нябожчыка. Колькасць сяброў Flat Earth Convention — клубу аматараў тэорыі пра тое, што нашая планета нагадвае талерку, — вымяраецца дзясяткамі тысяч. На думку экспертаў, мы ўпершыню сутыкнуліся з наступствамі прыходу ў дарослае жыццё першай генерацыі людзей, якія бяруць інфармацыю з інтэрнэту. «Да з'яўлення інтэрнэту колькасць сяброў Flat Earth Convention скарачалася, але цяпер, як і ў выпадку з крытыкамі Халакосту, робіцца ўсё больш людзей, якія спрабуюць знайсці масавае прызнанне ідэй, што, здавалася, даўно былі адкінутыя на сметнік гісторыі», — прызнае брытанская The Mirror.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ГРУЗІЯ. Вогнены вершнік і крыж на лбе

Каталікос — Патрыярх усяе Грузіі Ілія II падчас апошняй нядзельнай пропаведзі сказаў, што яму з'явілася ў сне інфармацыя пра перамогу чалавецтва над каронавірусам. Патрыярх распавёў, што бачыў, як вогнены чалавек, які сядзіць на кані, пераляцеў над яго галавой і знік. Затым да яго падышло дзіця, плюнула на зямлю, пальцам змяшала сліну і намалявала сабе крыж на лбе. Ілія II назваў сваё бачанне знакам таго, што з дапамогай Госпада і Крыжа чалавек зможа перамагчы каронавірус. Навіна, напэўна, уздыме аптымізм грузінаў. У самой Грузіі каронавірус выяўлены ў трох пацыентаў, але сітуацыя можа пагоршыцца праз суседства з Іранам, дзе хворых вельмі шмат. Дарэчы, дырэктар грузінскага Мінздароўя заклікаў грузін адмовіцца ад традыцыі цалавацца пры сустрэчах і паціскаць рукі. Гэта выклікала шмат жартоўных каментараў, у тым ліку заклік замяніць вітальны поціск рукамі поціскам ног.

**Паводле грузінскай прэсы**



Фота www.bru.by

# Эпідэмія 1980-х

Алег НОВІКАЎ

**Цяперашнія беларусы дастаткова спакойна ўспрымаюць інфармацыю пра пагрозу СНІДу і прафілактыку захворвання. Людзі больш сталага веку дакладна памятаюць часы, калі напрыканцы 1980-х гадоў пра хваробу толькі пачалі казаць. Паколькі тэма была адносна новая, хапала рознага кшталту плётак — аж да таго, што СНІДам можа заразіцца праз памаду.**

Аднак усё гэта не ідзе ў параўнанне з рэакцыяй на СНІД па той бок «жалезнай заслоны». На Захадзе асяроддзі наркаманаў і гомасексуалаў — першыя асноўныя патэнцыйныя мішэні хваробы — даўно былі маргінальнымі, аднак сталымі сегментамі грамадства.

Першыя выпадкі хваробы былі дыягнаставаныя ў Злучаных Штатах улетку 1981 года, хаця навуковыя дэбаты наконт розных дэталяў працягваліся прыкладна да 1984-га. Пакуль трывалі медычныя кансіліумы, людзей ахапіў жах. У 1984 годзе адзін з медыкаў прызнаваўся, што на самай справе яго ведамства змагаецца «не з імунадэфіцытам, а са страхам».

Прыкладаў гэтаму вельмі шмат. Калі ў 1985 годзе высветлілася, што ў вучня нейкай школы Нью-Ёрка сімптомы СНІДу, іншыя бацькі ўзнялі бунт. У школу на наступны дзень на знак пратэсту не прыйшлі амаль 90 працэнтаў вучняў. У фларыдскай школе ў падобным выпадку бацькі пайшлі яшчэ далей. Яны проста ўначы падпалілі хату, дзе жыў хлопец з сімптомамі хваробы, і прымусілі яго сям'ю шукаць сабе новую прапіску.

У Маямі біскуп адмовіў верніку, падазраванаму, што хворы на СНІД, піць з кубка для прычашчэння. У картачным клубе Мемфіса тых, хто лічыўся гомасексуалам, прымушалі надзяваць спецыяльныя пальчаткі, каб хвароба не перадалася праз карты. Калі паліцыя ў нейкіх штатах рабіла хапуны ў гей-клубах, яна надзявала супрацьгазавыя маскі.

Яшчэ далей пайшлі па іншы бок Атлантыкі. У Брытаніі магілу адной з ахвяраў СНІДу пасля смерці было вырашана заліць бетонам. «Гэта робіцца ў якасці меры засцярогі, калі калісьці мы або іншыя зноў адкрыем труну», — патлумачыў прэс-сакратар дэпартамента аховы здароўя акругі.

Паводле апытання, якое ў 1982 годзе правяло выданне Los Angeles Times, 48 працэнтаў рэспандэнтаў выступалі за тое, каб хворыя на СНІД мелі спецыяльныя ідэнтыфікацыйныя карткі. Яшчэ 12 працэнтаў апытаных увогуле падтрымлівалі ідэю рабіць суайчыннікам, у якіх выявілі вірус імунадэфіцыту, спецыяльныя тату.

І, нарэшце, вішанька на торце. Дырэктар чыкагскай клінікі па СНІДзе падчас інфармацыйнай гарачай лініі неяк атрымаў тэлефанаванне занепакоенага аўтамабіліста. Той наехаў на пешахода, якога ён палічыў геем, і баяўся, што праз гэта падхопіць хваробу.

У сувязі з апісанымі выпадкамі можна зразумець разгубленасць, якая ахапіла частку тагачасных прагрэсіўных інтэлектуалаў. Яны параўноўвалі калектыўную стыгматызацыю хворых на СНІД з антыкамуністычнай паранойяй у часы макарытызму або з судамі Лінча. Некаторыя нават пісалі, што згубілі веру ў заходнюю цывілізацыю.

**Паводле апытання, якое ў 1982 годзе правяло выданне Los Angeles Times, 12 працэнтаў рэспандэнтаў падтрымлівалі ідэю рабіць суайчыннікам, у якіх выявілі вірус, спецыяльныя тату!**

У наш час гісторыкі заклікаюць не перакладаць адказнасць выключна на неадукаваных грамадзян. Свой унёсак у распальванне псіхозу рабілі некаторыя адміністрацыі. Шматлікія дэпартаменты аховы здароўя на месцах, калі апісвалі формы распаўсюджвання хваробы, у імя маралі пазбягалі «бруднай» сексуальнай тэрміналогіі. Замест яе яны выкарыстоўвалі, напрыклад, недакладныя азначэнні кшталту «СНІД перадаецца праз цялесныя вадкасці». Усё гэта правакавала ў народзе самыя шырокія спекуляцыі наконт крыніц паходжання віруса і формаў яго перадачы.

У сваю чаргу, сярод часткі грамадства былі папулярныя забабоны, нібы СНІД — гэта выдумка кансерватараў, якія за кошт тэмы віруса хацелі атрымаць рэванш за контркультурную рэвалюцыю 1960-х гадоў. «Не дай шанец СНІДу — не хадзі правярацца», — заклікалі левардыкальныя медыя. Трэба сказаць, што кансерватары сапраўды актыўна гулялі на фобіях выбаршчыкаў. Рональда Рэйгана і яго жонку сёння вінавацяць у тым, што яны наўмысна блакавалі праграмы распрацоўкі лекаў супраць СНІДу. Гэта падтрымлівала ў грамадстве атмасферу, якая спрыяла рэспубліканцам.

Цяжка сказаць, калі ўдалося зламаць тэндэнцыю. У нейкі час на дапамогу ахвярам СНІДу пачалі прыходзіць зоркі поп-культуры. Напрыклад, Майкл Джэксан і Элтан Джон асабіста дапамагалі Рыяну Вайту, які выпадкова заразіўся СНІДам праз ін'екцыю. Аднак у дадзеным выпадку гэта быў асобны казус, які напалохаў усю краіну. Вандалы білі вокны дому сям'і хлопца, рэзалі шыны аўтамабіля яго бацькоў. Калі маці хлопца хадзіла ў крамы, касіры кідалі ёй рэшту, каб не дакранацца да рукі жанчыны. Каб скончыць вучэбны год, Вайну давялося слухаць лекцыі настаўніка ў класе праз тэлефон.

Прыкладна напрыканцы 1980-х гадоў у сур'ёзных СМІ пачалася кампанія супраць істэрыкі. «Няма відавочных доказаў таго, што СНІД у ЗША выйшаў за рамкі вядомых групаў рызыкі, у прыватнасці, гомасексуалаў і наркаманаў. Ёсць прычыны, каб выказаць здагадку, што хвароба застанецца абмежаванай унутры гэтых груп у агляднай будучыні... Але з такой колькасцю "экспертаў", якія драматызуюць эпідэмію, не дзіўна, шмат хто лічаць СНІД ледзь не грыпам», — адзначала ў 1987 годзе New York Times.

Аднак, хутчэй за ўсё, псіхоз удалося перамагчы за кошт працы навукоўцаў, якія адносна хутка высветлілі прычыны хваробы і прапанавалі прафілактычныя сродкі. Нейкі час таму з'явіліся навіны, што СНІД можна лячыць. Будзем спадзявацца, што эпідэмію каронавіруса чакае той жа лёс.

Алег НОВІКАЎ

# Імігранты ідуць

**Еўропа перад перспектывай новага нашэсця імігрантаў. Якія наступствы чакаюць стары кантынент у выпадку новай хвалі бежанцаў?**

Прыкладна на сярэдзіну гэтага тыдня колькасць бежанцаў, якія выйшлі на нейтральную паласу побач з мяжой Грэцыі, перавысіла 130 тысяч чалавек. Прычым гэта — толькі аванс. Турэцкі прэзідэнт Эрдаган мае намер пусціць у кірунку ЕС мільён чалавек. Тым самым ён ужо парушыў свае дамоўленасці з Бруселем трохгадовай даўніны, калі атрымаў за стрымліванне іміграцыйнага патоку прыкладна мільярд еўра.

Еўропа, якая і так пакутуе ад каронавіруса, агаломшаная навінамі з Басфору. Высокапастаўленыя чыноўнікі Еўрасаюза апeратыўна прыбываюць на перамовы ў Турцыю, відавочна маючы намер задобрыць Анкару матэрыяльна.

Многія лічаць такую тактыку памылковай. Марк Рутэ, прэм'ер-міністр Нідэрландаў і распрацоўшчык пагаднення трохгадовай даўніны, асудзіў Эрдагана за абуральнае парушэнне ўмоваў кантракту. Ён лічыць, што Еўропе не варта весці перамовы з Эрдаганам, які трымае «нож каля горла Еўропы». З ім пагаджаецца каментатар CNN, які сумняваецца, што турэцкі гарант не будзе ў будучыні разыгрываць карту сірыйскіх бежанцаў, нават калі цяпер з ім атрымаецца дамовіцца.

Называюць шмат дадатковых рызыкаў кампрамісу з Турцыяй па формуле «грошы ўзамен за стрымліванне». Такая дамова ўдарыць па бюджэце арганізацыі, што яшчэ больш абвострыць спрэчкі паміж сябрамі ЕС наконт бюджэту супольнасці. Паводле цяперашняга законапраекту, мяркуецца зрэзаць датацыі краінам Усходняй Еўропы, што ў іх захапленне не выклікае.

Левыя і ліберальныя палітыкі лічаць, што ЕС у гэтай сітуацыі не павінен быць аб'ектам шантажу. Наадварот, маўляў, трэба прадэманстраваць, што турэцкі выклік на адрас Грэцыі — гэта выклік на адрас усёй Еўропы. Для гэтага кіраўнікам трох ключавых інстытутаў ЕС прапануюць наведаць турэцка-грэчаскую мяжу і даць грэкам гарантыі. А амерыканскае выданне Bloomberg увогуле не разумее, чаму еўрапейцы баяцца імігрантаў, даючы Эрдагану глебу для шантажу.

Зрэшты, дамовіцца з Эрдаганам — гэта яшчэ палова справы. Нават калі Турцыя зноў закрые мяжу, давядзецца нешта рабіць з тымі, хто ўжо пакінуў турэцкую тэрыторыю. Называецца лічба ў 20–30 тысяч чалавек. Рада па правах чалавека ААН заявіла, што ў той жа Грэцыі няма юрыдычных падстаў для прыпынення працэдур прадстаўлення прытулку.

Куды збіраюцца падзець імігрантаў, пакуль не зразумела. Гэтым сумбурам напоўніцу карыстаюцца правыя папулісты, уваскрашаючы ў памяці бюргераў лета 2015 года. Тады, нагадаем, у Еўропу прарвалася каля мільёна чалавек з Блізкага Усходу. Прарыў у тым ліку справакаваў уздым правага папулізму. У выніку еўрапейскія дэмакратычныя інстытуты ўтрымаліся, але з'явіўся цэлы пояс краін (Грэцыя, Балгарыя, Харватыя, Славенія, Венгрыя, Аўстрыя, Мальта, Італія, Польшча), урады якіх аспрэчваюць прынцыпы еўрапейскай салідарнасці, адданасці прынцыпам міжнароднага права і гуманізму.

Чаго чакаць гэтым разам? Выданне Finacial Times не думае, што новая хваля іміграцыі можа выклікаць развал ЕС. Аднак пры гэтым мяркуе, што міграцыйны крызіс — гэта тое, што менш за ўсё трэба было аб'яднанню ва ўмовах нявызначанасці, што прынесла эпідэмія каронавіруса.

Становішча ўскладняецца тым, што «спускавым кручком» дэсанту мігрантаў у Грэцыю туркі называюць ваенныя дзеянні ў сірыйскай правінцыі Ідліб. Спыніць іх немагчыма без умяшання Расіі — куратара сірыйскага рэжыму. Прадстаўнікі ЕС ужо звярнуліся да Масквы з адпаведнай просьбай.

Такім чынам, атрымліваецца, што Расія і Турцыя фактычна могуць выкарыстаць у сваіх інтарэсах сітуацыю вакол патоку бежанцаў, што спрабуюць прабрацца ў Еўрасаюз пасля актывізацыі баявых дзеянняў у сірыйскім Ідлібе. Турцыя даўно не раскручвала Еўропу на грошы па тэме бежанцаў, а ў Расіі за апошні час таксама хапае падстаў насаліць ЕС. «Сірыйскія ўцекачы — новы тып "узброеняў", пры дапамозе якога і без вайны можна схіліць Еўропу да саступак», — прызнае адзін з прапуцінскіх экспертаў і прапануе дамагацца ад Брусэля большага камфорту на ўкраінскім фронце.

З іншага боку, пакуль для Еўропы самае галоўнае — стабілізаваць сітуацыю на мяжы за кошт здзелкі з Анкарой. Прычым, у час эпідэміі ўмовы перамоваў можа дыктаваць Турцыя. Дапускаюць нават варыянт, калі будзе ўзнятая старая і балючая тэма надання туркам бязвізу.

**Расія і Турцыя фактычна могуць выкарыстаць у сваіх інтарэсах сітуацыю вакол патоку бежанцаў, што спрабуюць прабрацца ў Еўрасаюз пасля актывізацыі баявых дзеянняў у сірыйскім Ідлібе. Турцыя даўно не раскручвала Еўропу на грошы, а ў Расіі таксама хапае падстаў насаліць ЕС**



Фота www.iz.ru

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ігар Дадон



Прэзідэнт Малдовы заявіў, што пасля выбараў мае намер правесці рэферэндум па пытанні абвяшчэння ўніянізму (руху за інкарпарацыю Малдовы ў склад Румыніі) па-за законам. Ідэя таго, што малдаване і румыны – адзін народ, была вельмі папулярная сярод мясцовай грамадскасці на пачатку 1990-х гадоў, што праявілася ў асноўным законе Малдовы. Напрыклад, 142 артыкул Канстытуцыі дазваляе правядзенне плебісцыту па пытанні аб'яднання з Румыніяй.

Цяпер Ігар Дадон кажа пра намер пасля прэзідэнцкіх выбараў, якія адбудуцца ў гэтым годзе, правесці рэферэндум. Падчас яго грамадзяне змогуць прагаласаваць за выключэнне з Канстытуцыі згаданага артыкула. На гэтым лідар сацыялістаў не спыніўся і прапанаваў увогуле караць грамадзян за прапаганду ўніянізму.

Цікава, што праеўрапейскія партыі дастаткова слаба рэагуюць на прэзідэнцкую ініцыятыву. Гэта можна растлумачыць тым, што прарумынскія настроі не такія моцныя, як раней. Да таго ж сярод дэмакратычнай эліты Малдовы ўсё набірае папулярнасць ідэя наконт інтэграцыі ў ЕС пры захаванні незалежнасці краіны.

Што тычыцца Румыніі, то яшчэ напрыканцы студзеня прэзідэнт Румыніі Клаус Яханіс заявіў што ў яго няма цвёрдай упэўненасці наконт еўрапейскага курсу новага малдоўскага кіраўніцтва. Таму, па словах Яханіса, пакуль не можа быць і гаворкі пра ранейшы ўзровень супрацоўніцтва з Кішынёвам.

### Эрнэста Кардэналь



Нікарагуанскі каталіцкі святар, рэвалюцыянер і паэт, які памёр ва ўзросце 95 гадоў, быў адной з самых цікавых фігур Лацінскай Амерыкі. Сын багатага гандляра і выпускнік элітных амерыканскіх і мексіканскіх ВНУ ў 1954 годзе прыняў удзел у няўдалай спробе збройнага звяржэння дыктатуры Самосы. У выніку яму давялося эміграваць у ЗША, дзе Кардэналь стаў каталіцкім манахам.

Вярнуўшыся ў Нікарагуа і прыняўшы сан святара, ён арганізаваў камуну. Тут, акрамя асабістай паэтычнай творчасці, вучыў бедных сялян пісьму, маляванню, скульптуры і папулярызаваў тэалогію вызвалення – дактрына хрысціянскага сацыялізму. Ён таксама быў таемным чальцом падпольнага сандзіністкага фронту нацыянальнага вызвалення, што стала вядома ўладам.

Нягледзячы на славу паэта (яго грамаду наведвалі асобы калібру Картасара), у 1977 нацгвардзейцы Самосы разбурылі пасёлак Кардэналя, у дадатак забараніўшы мясцовым жыхарам маляваць. Сам святар, які быў завочна асуджаны рэжымам на 18 гадоў зняволення, зноў падаўся ў эміграцыю. Менавіта дзякуючы яму сандзіністаў падтрымліваў славуты Гарсія Маркес.

У 1979 годзе, пасля перамогі сандзіністкай рэвалюцыі, Кардэналь стаў міністрам культуры. За яго палітычную дзейнасць тагачасны рымскі папа Ян Павел II, вораг тэалогіі вызвалення, пазбавіў яго сану (пакаранне з Кардэналя толькі год таму зняў цяперашні пантыфік Францыск).

Да канца жыцця Кардэналь заставаўся ў палітыцы, мяркуючы, што клан Даніэля Артэгі (цяперашняга прэзідэнта Нікарагуа) здрадзіў справе сандзіністаў. Зрэшты, магчыма, пра Кардэналя мы яшчэ пачуем. Яго неаднаразова намінавалі на літаратурную Нобелеўскую прэмію, і некаторыя медыя не выключаюць, што ў гэтым годзе ўзнагарода знойдзе героя.

### Джасцін Трудо



Канцылярыя прэм'ера Канады 2 сакавіка заявіла, што ёй удалося памірыцца з племенем Wet'suwet'en, што ў правінцыі Брытанская Калумбія. Чальцы згаданага плямені паднялі сапраўднае паўстанне супраць плана будаўніцтва газапровада Coastal Gaslink па іх тэрыторыі.

Усё пачалося 6 лютага, калі паліцэйскія сталі зносіць індзейскае паселішча, якое перашкаджала будаўніцтву. Некалькі карэнных жыхароў былі затрыманыя за аказанне супраціву. У адказ па ўсёй краіне індзейцы і экологі пачалі акцыі прамога дзеяння. У Антарыё і Квебеку ўсталявалі чыгуначную блакаду, якая паралізавала пасажырскія і грузавыя перавозкі на некаторых федэральных лініях. Былі блакаваныя многія аўтатрасы. Яшчэ адным ноу-хау пратэстантаў сталі акцыі на лініях метро ў гадзіну пік, якія паралізавалі грамадскі транспарт у буйных гарадах.

Сітуацыя яшчэ больш заблыталася з-за таго, што савет племені Wet'suwet'en выступаў супраць будаўніцтва, але федэральны саюз плямёнаў — не супраць. Дый профільны суд таксама даў згоду на будаўніцтва.

У выніку дэлегацыі прэм'ера давялося ўступаць у перамовы з індзейцамі, якія скончыліся мірнай дамовай.

# Мікола Ермаловіч. «Ён любіў Беларусь…»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Роўна 20 гадоў таму, 5 сакавіка 2000 года, пад коламі таксоўкі абарвалася жыццё даследчыка, гісторыка, педагога і патрыёта Міколы Ермаловіча, які вярнуў беларусам спадчыну Вялікага Княства Літоўскага.**



Калі я ў другой палове 1990-х гадоў вучылася ў школе, на ўроках гісторыі нам распавядалі пра тое, што цяперашнія беларусы некалі зваліся ліцвінамі і што Вялікае Княства Літоўскае было беларускай дзяржавай. Яго мінуўшчына натхняла і нараджала ў сэрцы гонар і павагу да продкаў, сваёй зямлі і яе гісторыі. Ужо пазней, скончыўшы школу, я даведалася, што абавязаная гэтым Міколу Ермаловічу. Сама я, на жаль, не заспела Міколу Іванавіча ў сваім свядомым узросце. Таму даю слова тым, хто быў знаёмы з ім асабіста.

### «Выкліканыя Ермаловічам дыскусіі цяжка пераацаніць»

Гісторык і пісьменнік Уладзімір Арлоў прысвяціў Міколу Ермаловічу нарыс у сваёй кнізе «Імёны Свабоды». Спадар Уладзімір згадвае, што праца Ермаловіча «Па слядах аднаго міфа» вельмі доказна абвяргала афіцыйную канцэпцыю гісторыі Беларусі і Вялікага Княства Літоўскага адносна таго, што нібыта літоўскія феадалы захапілі беларускія землі. Твор быў напісаны ў 1968 годзе, але наконт яго публікацыі ў тыя часы немагчыма было і думаць, таму кніга пашыралася ў самвыдаце па ўсёй краіне.

— Я памятаю, як мне мой сябра, паэт Алесь Касцень з Паставаў, паслаў бандэролькай гэтае надрукаванае на папяроснай паперы даследаванне Ермаловіча, і патэлефанаваў мне, каб сказаць, што адправіў. Дык яно ішло месяц з Паставаў да майго Полацка. Мы жартавалі, бо, па-першае, яно дайшло, што вельмі цешыла, і мы потым пашыралі яго ў Полацку, а па-другое, абмяркоўвалі, колькі ж людзей у розных кабінетах яго прачыталі па дарозе з Паставаў да Полацка.

У 1990-я гады, калі адбылося прызнанне Ермаловіча, ён атрымаў Дзяржаўную прэмію імя Кастуся Каліноўскага за кнігу «Старажытная Беларусь», медаль Францыска Скарыны, Уладзімір Арлоў неаднаразова ездзіў з ім на выступы ў розныя гарады. Ён прыгадвае, што гэта заўсёды было цікава, бо ў Ермаловіча была бясспрэчная харызма, якая вельмі адчувалася, калі ён захапляўся выступам.

— Цяпер акадэмічная навука, прафесійныя гісторыкі мяркуюць, што Ермаловіч быў рамантыкам у сваёй працы. Але тое, што ён спарадзіў дыскусію і актывізаваў акадэмічных гісторыкаў на новыя даследаванні гісторыі Вялікага Княства з беларусацэнтрычных пазіцый, — гэта бясспрэчна, — перакананы Уладзімір Арлоў. — Яго творы «Па слядах аднаго міфа» і «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае» былі ўважліва прачытаныя і ў Літве і, натуральна, выклікалі там вельмі вострую крытыку. Але я думаю, што яны таксама паспрыялі таму, што частка літоўскіх гісторыкаў, прынамсі, сучаснай генерацыі, глядзіць на гісторыю ВКЛ іначай, чым той самы спадар Гудавічус, які выдаў таўшчэзную «Гісторыю Літвы са старажытных часоў да 1569 года», прымудрыўшыся не згадаць ні Беларусь, ні беларусаў. Таму працы Ермаловіча спрыялі таму, каб частка літоўскіх гісторыкаў пачала больш уважліва глядзець на супольнае мінулае. Выкліканыя ім навуковыя і грамадскія дыскусіі цяжка пераацаніць.

Уладзімір Арлоў натхняўся спадчынай Міколы Ермаловіча падчас працы над кнігамі «Айчына» разам з мастаком Паўлам Татарнікавым і «Краіна Беларусь» ды «Вялікае Княства Літоўскае. Ілюстраваная гісторыя» са Змітром Герасімовічам. Цяпер ён падрыхтаваў да друку чацвёртае выданне «Імёнаў Свабоды», дзе сярод герояў будзе спачылая летась Наталля Санько, якая непасрэдна займалася распаўсюдам твору «Па слядах аднаго міфа» Міколы Ермаловіча, тады яшчэ ў самвыдаце.

Міколу Ермаловічу яшчэ паспелі аддаць належнае пры жыцці: ён, ганаровы грамадзянін Маладзечна, меў шэраг узнагародаў, хаця сам ставіўся да іх абыякава. Але Уладзімір Арлоў перакананы, што смерць Міколы Ермаловіча — з ліку тых, што застануцца на сумленні цяперашняга беларускага рэжыму. Даследчык амаль навобмацак хадзіў па вуліцах, гэта было страшна. І, урэшце, праз гэта загінуў.

«У іншай дзяржаве чалавек з такімі заслугамі атрымаў бы і адпаведны медычны догляд, і аўтамабіль з кіроўцам. Між тым, Ермаловіч мусіў рухацца па Мінску амаль навобмацак. У сакавіку 2000 года ён, пераходзячы вуліцу, загінуў пад коламі таксоўкі, так і не паспеўшы ўзяць у рукі сваю выніковую кнігу "Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае"», — напісаў Уладзімір Арлоў у «Імёнах Свабоды».

### «Ён, амаль невідушчы, расплюшчыў нам вочы на Беларусь»

Яшчэ адзін суразмоўца, краязнаўца, выдавец, лідар нефармальных суполак у Маладзечне Міхась Казлоўскі ўзгадвае, што 20–30 гадоў таму ў горадзе было шмат знакавых постацяў, сярод якіх — Мікола Ермаловіч, Генадзь Каханоўскі і многія іншыя. Менавіта яны, нібыта тыя атланты, трымалі на сваіх плячах Беларусь.

З Міколам Ермаловічам Міхась Казлоўскі пазнаёміўся ў 1981 годзе і ўсё жыццё да апошняга шляху даследчыка захоўваў з ім вельмі цёплыя сяброўскія адносіны. Знаёмства адбылося дзякуючы краязнаўцу і гісторыку Генадзю Каханоўскаму. Увогуле, у гутарцы спадар Міхась часта згадвае Ермаловіча і Каханоўскага разам. Кажа, што ў патрыятычным асяродку іх нават звалі паміж сабой Кірыла і Мяфодзій, бо яны дапаўнялі адзін аднаго і рабілі справу, параўнальную па сваім маштабе са справай стваральнікаў славянскай азбукі.

— Калі я даведаўся, што ў яго кепскі зрок, то ад пачатку ўзнікла нейкая напружанасць адносна Міколы Іванавіча. Але літаральна з першых хвілін знаёмства яна знікла. Адразу было бачна, што перад табой — асоба. Ён быў імпульсіўны, імгненна загараўся, актыўна жэстыкуляваў, — згадвае спадар Міхась.

З часам іх сустрэчы сталі добрай традыцыяй, балазе жылі Міхась Казлоўскі і Мікола Ермаловіч непадалёк адзін ад аднаго. Спадар Міхась быў частым і жаданым госцем у доме Ермаловічаў, і распавядае, што ў Міколы Іванавіча не было вялікай бібліятэкі, бо мэтанакіравана кнігі ён не збіраў і з радасцю дзяліўся імі з сябрамі.

— Шмат хто кажа, што напачатку 1980-х гадоў не было кніг і столькі даступнай інфармацыі, як цяпер. Але тыя, хто жадаў пра нешта даведацца, інфармацыю знаходзілі. У Міколы Ермаловіча ўжо тады я бачыў тры маленькія кніжачкі п'ес Францішка Аляхновіча віленскага выдання з бібліятэкі ксяндза Адама Станкевіча. Ён даў мне іх пачытаць, а праз нейкі час падараваў. Тады ж я ўпершыню ўбачыў у яго «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі» Вацлава Ластоўскага, пасля ён даў мне пачытаць сваю працу «Па слядах аднаго міфа».

Менавіта ад Міколы Ермаловіча Міхась Казлоўскі даведаўся пра тое, дзе была гістарычная Літва. Канцэпцыя Ермаловіча лагічная і пераканаўчая, лічыць Міхась Казлоўскі. Ён кажа, што кожны беларускі гісторык перадусім павінен мець бларусацэнтрычны погляд, які меў Мікола Ермаловіч.

— Цяпер часам я бачу стрэлы ў бок Ермаловіча — маўляў, рамантык. Але я хачу сказаць, што і Карамзін не быў прафесійным гісторыкам, але ж да гэтага часу яго твор «История государства Российского» перавыдаецца. Таму пачакайце ўпікаць Ермаловіча. Ён, амаль невідушчы, расплюшчыў нам вочы на Беларусь.

У Маладзечне на рагу вуліц Вальнца і Віленскай стаіць валун з шыльдай ганароваму грамадзяніну горада Міколу Ермаловічу, які ўсталяваў клуб «Спадчына» ў 2003 годзе. Часам даводзіцца чуць, што гэты помнік не адпавядае асобе даследчыка. Але Міхась Казлоўскі перакананы: галоўнае, што месца ўжо «забраніравана», а вялікі помнік у свой час паўстане.


Фота Дзіяны Серадзюк

— Ён гэтага заслугоўвае. У асобе Міколы Іванавіча спалучаліся навуковыя падыходы, апантанасць і чалавечнасць. Як у жыцці, так і ў навуцы ён быў сапраўдны — гэта слова, якое, бадай, найбольш адпавядае яго характарыстыцы.

Суразмоўца згадвае, як на пачатку 1980-х гадоў яны разам ездзілі ў вандроўкі: ці тое ў Мілавіды адзначаць угодкі перамогі паўстанцаў Каліноўскага над царскімі войскамі, ці тое на магілу Каруся Каганца на роднай для Ермаловіча Койданаўшчыне, ці тое ў Ракуцёўшчыну на свята паэзіі.

— У 1982 годзе мы паехалі ў Вязынку на 100-годдзе Янкі Купалы. Цэлую ноч мы там адзначалі Купалле. Рэй вяла тады «Беларуская майстроўня». Потым з Ермаловічам разам вярталіся дадому, і мне зранку трэба было ісці на працу. І Мікола Іванавіч, чалавек больш сталага веку, перадусім падумаў пра мяне і даў мне свой знакаміты вялікі партфель, на якім я спаў у электрычцы, пакуль ехалі з Вязынкі да Маладзечна.

Міхась Казлоўскі захаваў у памяці некаторыя выказванні Міколы Ермаловіча, якія не страцілі сваёй актуальнасці і дагэтуль. «Беларусам трэба гуртавацца, бо мы пакуль яшчэ слабыя». «Разумны чалавек на кампраміс ідзе, але на капітуляцыю не ідзе». «Мы павінны працаваць, як краты: гэтай працы вы не бачыце, а прыходзіце вясной у сад — а там крот працаваў». «Трэба рабіць павольна, але няўхільна».

— Гэта старое пакаленне, якое зазнала, што такое рэпрэсіі, — у Міколы Іванавіча быў рэпрэсаваны бацька, сам ён неаднаразова меў непрыемнасці і прафілактычныя гутаркі. Але гэтыя людзі нібыта праходзілі праз кузню — былі загартаваныя. Яны не былі шматслоўнымі, але былі канкрэтнымі і сапраўднымі. Мне пашанцавала ведаць такіх людзей. Яны не гулялі ў Беларусь. Яны верылі ў будучыню сваёй мовы, культуры, сваёй краіны і прысвячалі гэтаму ўсё сваё жыццё.

Такіх постацяў, кажа спадар Міхась, цяпер у Беларусі няма. Гэта былі людзі, магутныя духам. Ад іх можна было запальваецца.

Памяць пра Міколу Ермаловіча жыве і пасля яго сыходу. Варта аддаць належнае: у маладзечанскім Палацы культуры і раённай бібліятэцы праходзяць вечарыны памяці даследчыка, канферэнцыі, выходзяць кніжкі і брашуры, дзе згадваецца яго імя. Але ці дастаткова гэтага?

Налета Міколу Ермаловічу споўніцца 100 гадоў. Здаецца, гэта юбілей, які варта адсвяткаваць у рэспубліканскім маштабе. І не чакаць, пакуль урачыстасці арганізуюць улады, а рабіць так, як рабіў сам Ермаловіч: ціха, павольна, але няўхільна.

...На Старых могілках Маладзечна, што знаходзяцца за прыпынак ад горада ля станцыі Фестывальны, Мікола Ермаловіч спачывае побач са сваёй жонкай Лідзіяй Цімафееўнай. Ніколі не быўшы на яго магіле, я знаходжу яе сярод іншых пахаванняў досыць хутка: на адваротным баку помніка напісана: «Ён любіў Беларусь…».

# Мацней за «Песняроў»

Яўген БЯЛАСІН

**Мацней за «Песняроў» мог бы стрэліць беларускі музычны праект «Сузор'е». Чаму мог і чаму не стрэліў — пра гэта гутарка з Паўлам Харэвічам, былым франтмэнам і салістам легендарнага мінскага гурта.**

Спадар Павел жыве ў Брэсце. «Сузор'е» ж грымела ў бэззсэсэраўскім Мінску яшчэ ў час маёй вучобы ў інстытуце замежных моваў, сёння — Лінгвістычным універсітэце. Я зазвычай парыўся ў лазні на Хмяльніцкага і праходзіў міма кафэ з нязвыклай на тыя часы беларускай назвай «Сузор'е». А там шуму, чутак… Здаўна люблю рок-н-рол, і цяпер, падбіраючы дачцэ да ведама нейкія ўзоры року «як тады», выйшаў на майго суразмоўцу даволі выпадкова, паводле прозвішча, імя і роду занятках. Тут, у Брэсце, Павел Харэвіч не трымаецца ў цэню, акрамя адміністрацыйнай культурніцкай працы (быў загадчыкам клуба, потым Цэнтра культуры і адпачынку) грае музыку. Мы неяк адразу перайшлі на «ты».

***— Як атрымалася трапіць у «Сузор'е»?***

— Мы тут, у Брэсце, гралі камандай у кавярні, якую ахрысцілі ў народзе «Мантана», бо кіроўцы-міжнароднікі мелі звычку хадзіць. А наш клавішнік з сузор'еўскім разам вучыўся ў кансерваторыі. Шукалі ў 1989 годзе вакаліста, дык запрасілі мяне на праслухоўванне. Падышоў. Тры гады аддаў, як лёду.

***— Чытаў у сеціве, што на Харэвіча многія дзяўчаты западалі, адмыслова хадзілі. Што, была такая слава?***

— Што хаваць, была папулярнасць такая. Але на той час я быў ужо жанаты.

***— Чым быў адметны гурт?***

— Усе як адзін былі з вышэйшай адукацыяй. І мы гралі сапраўдны хард-рок. Амаль усе песні пісаў Валянцін Пучынскі. Гралі браты Казлоўскія, Андрэй і Аляксей. Салісткай была Нэлі Дзянісава. Андрэй Філатаў — бубначом, прадзюсар — Ігар Мілюцін, ён жа і арганізоўваў гастролі. Каталіся па ўсім Савецкім Саюзе, ад Беларусі да Сібіры. Тады «гурты» новым павевам былі, карысталіся шалёнай папулярнасцю. А мы — першы ў Беларусі прафесійны ансамбль. Хоць рок-н-рол і ўсяляк забаранялі, але мы бадай што былі адзіныя, хто слова «рок» пісаў на афішах.

***— Хто натхняў?***

— Вядома, заходнія выканаўцы. Deep Purple, іншыя… Пагатоў, што тут, у Брэсце, дый у Мінску доступ да заходняй музыкі не быў праблемай. Тыя ж дальнабойнікі ў «Мантану» «пласты» прыносілі — бяры, калі ласка, абы грошы. Але мы і самі былі не дзеці ўжо далёка, з уласным досведам і бачаннем. Я ж у арміі за мяжой служыў, у Польшчы, у аркестры граў. Калі прыйшоў у «Сузор'е», быў самым маладым — 30 гадоў размяняў нядаўна. «Малакасос» далі мянушку, ну, ды не за гэта. Люблю малако, на гастролях у кожным новым горадзе адразу яго стараўся знайсці.



Сузор'е 1990 год. Першы шэраг, злева направа Андрэй Філатаў, Павел Харэвіч, Нэлі Дзянісава; другі шэраг — Андрэй Казлоўскі і Аляксандр Несцяровіч. Фота з архіва Паўла Харэвіча




Павел Харэвіч у брэсцкай студыі «Буг Бэнд». Фота аўтара

***— Ведаю, што цяпер ты часам граеш на саксафоне. Там быў салістам. Што яшчэ ў багажы?***

— Сакс, бо музычную вучэльню тут па кларнеце скончыў, а інструменты родныя. Клавішныя магу таксама. На гітары.

Тады ў БССР сапраўднай папулярнай музыкі практычна не было, «Песняры» мелі ўжо рост, так, але ж гэта фолк-рок, а сапраўдны жорсткі рок толькі «Сузор'е» грала. «Верасы», «Сябры» пачыналіся толькі, дый яны іншае… Гэта як параўноўваць лядоўню, тэлевізар з пасудамыйкай.

***— Калі «Сузор'е» было так высока, то чаму «Песняры» ва ўсіх на слыху і ў памяці, а вы не? Тармазнулі вас? Самі тармазнуліся?***

— Улады нас не асабліва любілі, так. Бо хард-рок — гэта пратэст. Таму «Песнярам» дазвалялася ўсё лёгка, а нам… Не скажу, што нам наступалі на горла зусім. Ездзілі ж усюды, і на гастролях спявалі, што не зацверджана ў рэпертуары было. Ігар Лучанок, яшчэ скажу, паспрыяў. Праслухаў і сказаў: «Добра, што ў Беларусі засталася рок-музыка».

***— Як суадносіліся вы і камсамол?***

— Мяркую, што беларуская камсамольцы не былі зусім дурнымі, агалцелымі. Іхняя тактыка была: «Нешта новае, не ад нас? Узначаліць». Таму «Сузор'ю» і саступілі кавярню ў цэнтры Мінска, а потым паспрыялі перайсці ў штат філармоніі. Яны тады рэсурсы мелі, маглі апаратуру класную дастаць хаця б. Не тое, што БРСМ цяпер. Гэтыя толькі на турзлёт могуць узяць гарэлкі папіць.

***— У філармоніі, наколькі ведаю, гралі вы строга зацверджаную праграму?***

— Было такое, асабліва перад маім прыходам. На канцэрце ў Гомелі напрыканцы 1980-х нехта з хлопцаў выкінуў са сцэны пальцамі лацінскае V, маўляў «victory», перамога, дык тамтэйшыя гэбісты паставілі ў віну, што зігаваў, і на год забаранілі выступы. Гралі акампанемент салісткам філармоніі Святлане Кульпа ды Надзеі Мікуліч, дык на афішы прапісвалася проста «в сопровождении инструментального ансамбля», і канферансье не абвяшчаў.

**У БССР сапраўднай папулярнай музыкі практычна не было, «Песняры» мелі ўжо рост, так, але ж гэта фолк-рок, а сапраўдны жорсткі рок толькі «Сузор'е» грала. «Верасы», «Сябры» пачыналіся толькі, дый яны іншае… Гэта як параўноўваць лядоўню, тэлевізар з пасудамыйкай**

***— А ці прыходзілі з камітэту пакіраваць?***

— Такога не памятаю. Дый адкуль мне асабліва ведаць. Мне ж тэлефанавалі — і я з Брэста на гастролі, на рэпетыцыю. На станцыі юных тэхнікаў база для рэпетыцый наша была, на вуліцы Макаёнка, насупраць тэлебачання. А жыў тут, з жонкай і двума дзецьмі. Значна пазней мне падпалкоўнік у адстаўцы з іхніх паказаў спіс рок-гуртоў, забароненых у СССР. «Сузор'я» там не было.

***— А магло быць так, што сігнал з Гомеля фармальнай падставай быў? Бо падножка, пагадзіся, магутная — на цэлы год адлучыць ад сцэны.***

— Такое магло быць, бадай што. Мы ж для ўладаў што бяльмо на воку былі. Адзін «Король и шут» чаго варты *(дэкламуе)*: «Пускай народ хохочет всласть, // Но власти бьёт челом. // А шут, он шут — захватит власть, // Сам станет королём! // Лишь только он взойдёт на трон, // Настанет скорбный час, // Ведь не сумеет править он // Без шутовских гримас. // Кто б ни сидел на троне — //Люди всегда поймут: // Шут в золотой короне — // Это лишь только шут».

***— Чытаў пра 12 скандальных беларускіх песень паводле версіі музычнага парталу «Тузін Гітоў», дык акурат дванаццатую пазіцыю там займае песня Валянціна Пучынскага «Невежество» з такімі словамі: «Уже зима, поля еще не жаты, кто виноват — ансамбли виноваты».***

— Так, потым «Сузор'е» расфарміравалі ў першы раз. Але не з-за гэтага акурат. Пастанова ЦК КПСС у 1983 годзе выйшла супраць рок-музыкі, амаль усе ВІА (*вакальна-інструментальныя ансамблі. — Я.Б.*) растрэслі-прыкрылі, як помню.

***— Чуў яшчэ версію, што ў СССР баяліся нацыянальнага ажыўлення. І беларускія ўлады прыкрыліся Мулявіным. Маўляў, рускі чалавек, не праблемны ў гэтым плане. Хай творыць. А ў «Сузор'і» ж усе тутэйшыя беларусы былі?***

— Мінчукі былі ўсе, акрамя мяне. Але на той час збольшага па-руску «Сузор'е» спявала.

***— На карысць папярэдняй версіі гаворыць яшчэ, што былі забаранілі «Сузор'ю», да твайго прыходу, афіцыйна працаваць над прапанаванымі Адамам Мальдзісам сярэднявечнымі нотамі «Полацкага сшытка» і над рокавай версіяй паэмы «Песня пра зубра» Міколы Гусоўскага. Я ў падборку скінуў з сеціва «Панну Марыю». Гэта акурат з рок-оперы «Песня пра зубра». Там вакалістам Павел Харэвіч пазначаны?***

— Так. Сапраўды, даўно задумвалі зрабіць, але атрымалася толькі ў 2008-м, пасля сямі гадоў перапынку. Сабраліся і запісалі. Я без праблем магу спяваць і па-польску, і па-беларуску. Хоць беларускую мову ненавідзеў, было. Не таму, што нарадзіўся ў Амурскай вобласці. Калі пераехалі ў Каменец, настаўнік мне гэтую нелюбоў прышчапіў. Торгаў усяляк, кпіў за дысцыпліну, ушчыпнуць мог балюча. Але калі пасля арміі я з ім на чысцюткай беларускай мове ўсчаў — вось быў шок.

***— Памяняўся светагляд?***

— Так. Стаў больш дарослым, разабраўся, што да чаго.

***— Што са створанага «Сузор'ем» ставіш найвышэй?***

— «Кароль і блазан», вядома. Класіка, гэта значыць актуальна ***(сядае да сінтэзатара і грае, падпяваючы)***. «Панну Марыю» назаву таксама. Яе Падбярэзскі паставіў у топ. І яшчэ мабыць такое. Калі быў путч камуністычны ў 1991 годзе, гастралявалі ў Крыме. Дык Валянцін (Пучынскі. — **Я.Б.**) напісаў песню «Боб Ельцын рок» у падтрымку. Версія ў сеціве ёсць — я там салістам *(найграе пару радкоў)*. Але гэта асабліва.

***— А як так адбылося, што зайшло-закацілася «Сузор'е»?***

— Я фаталіст паводле светапогляду. Лічу, што трэба дакладна трапіць у свае прастору і час. Нам проста аб'явілі: маўляў, закрываемся. Няма фінансаў. Саюз развальіўся, у Беларусі іншыя рэаліі. Хаця і ў Саюзе па-рознаму было. І «за палкі» канцэрты давалі, 12 рублёў 50 капеек, плюс сутачныя 3,50, і за 100 рублёў.

***— Не атрымалася назбіраць на пераезд у Мінск?***

— Не. Асабліва калі сям'я — гэта няпроста. А на нешта ж жыць трэба. Давялося зноў па рэстаранах: «Пекін», «Масква»… Але я ўсюды рок-складнікам! Нядаўна зрабілі хард-праект Whiskey way, гурт — хэдлайнер фестывалю «Азбука року», які праходзіць у Мінску. Там старэйшы мой спявае. Разава атрымлівалася ў рок-кавярні «Акадэмія» граць, ну ды бізнес цяпер музыкаў не вельмі можа падтрымліваць. Дзяржава дапамагае. «Буг Бэнд» — ён жа і класічным дыксілендам быў, з поўным вялікім складам, і меншы цяпер, граем пад «мінусоўку». Дык маем статус народнага, тры стаўкі нам даюць. Праўда, раз на тры гады пацвердзіць яго трэба.

***— А што цяпер робяць былыя сузор'еўцы?***

— Нэлі Дзянісава, Аляксей Казлоўскі і Андрэй Філатаў пасля 1991-га стварылі англамоўны праект «Зіндан», паўгода спявалі ў сталіцы Непала Катманду ў казіно. Нэлі цяпер — рэгент царкоўнага хору. Аляксей адразу пасля першых прэзідэнцкіх выбараў з'ехаў у ЗША. Цяпер у Нью-Ёрку. Валянцін Пучынскі таксама быў з'ехаў у ЗША, у Чыкага. Да вялікага жалю, памёр у маладым веку яшчэ. Несцяровіч і Андрэй Казлоўскі — у Мінску. Зрэдку ладзяць клубоўнікі — гэта пра каго ведаю.

***— Што хацелася б сказаць, пра што не казалі?***

— «Сузор'е» было для мяне школай стаўлення да людзей, музыкі, прафесіі. Не хочацца жыць у краіне, дзе музыка займаецца палітыкай, бо гэта сігнал: тут нешта не ў парадку. Ну дык, бывае, і трэба даць такі сігнал. У «Сузор'і» гэта так ці інакш гучала. Сказаў і я з сынам — у сеціве ёсць. Пра Сяргея Фаміна, расстралянага паэта, на «Тузіне гітоў» або пра наш 2017 год у Юцюбе. З нагодаю, прыходзьце на канцэрты!

# Марк Хідэкель: «Дзякуй беларускай зямлі!»

Ксенія ЛІЦВІНОЎСКАЯ

**У Мінску адзначылі дзень народзінаў славутага мастака Лазара Хідэкеля. Яго сын з сям'ёй спецыяльна з гэтай нагоды прыехалі ў Беларусь з Нью-Ёрка.**




Вечарына ў Галерэі сучаснага мастацтва «Ў» прайшла ў рамках праекта #UNOVIS100, які рэалізуе Цэнтр беларуска-яўрэйскай спадчыны, Музей Віцебскага мастацкага народнага вучылішча і кампанія А1.

Год стагоддзя творчага аб'яднання «УНОВІС» («Сцвярджальнікі новага мастацтва»), якое было створана ў Віцебску, выдаўся высакосным. І так супала, што менавіта 29 лютага нарадзіўся знакаміты мастак. Ён увайшоў у склад «УНОВІСа», які праславіў Беларусь на ўвесь свет.

Прайшло 116 гадоў з дня нараджэння Лазара Хідэкеля. Як адзначылі на імпрэзе, мастацтвазнаўцы дагэтуль знаходзяць у яго творах новыя грані і новыя сэнсы. Дзякуючы сям'і і блізкім Лазара Хідэкеля, мы можам бачыць арыгінальныя працы мастака, яго раннія эскізы і ўжо блізкія да дасканаласці творы позняга перыяду.



Сын мастака, вядомы архітэктар і дызайнер Марк Хідэкель зазначыў:

— Гэта надзвычайны гістарычны момант, я лічу, не толькі для нас. Але наогул для гісторыі мастацтва. Тое, што нарадзілася ў Віцебску сто гадоў таму — і гэта не толькі маё меркаванне, — апладніла ўсю візуальную культуру. У XX і XXI стагоддзі яно ўсё яшчэ актуальна — з ухілам на ахову прыроды і будучае развіццё ўзаемаадносін прыроды, архітэктуры і цывілізацыі. І я думаю, што на нябёсах сябры «УНОВІС» і мой бацька вельмі радыя і шчаслівыя, што ўсё гэта адбылося і працягваецца.

Як паведаміў сын мастака, цяпер выходзіць кніга галоўнага куратара Венецыянскага біенале пра 50 дасягненняў сучаснай цывілізацыі ў архітэктуры. «І туды ўваходзіць праца Лазара Хідэкеля, яго аэрагарады і яго часткі архітэктуры. Гэта значыць, Беларусь нарадзіла ідэі, якія праз сто гадоў увайшлі ў 50 вялікіх дасягненняў, найважнейшых дасягненняў цывілізацыі ў архітэктуры і горадабудаўніцтве. Дзякуй беларускай зямлі!»

Рэгіна Хідэкель, доктар мастацтвазнаўства, жонка Марка, распавяла:

— Лазар Маркавіч нарадзіўся ў высакосны год, мы яго дзень народзінаў спраўлялі раз на чатыры гады. І такім дзіўным чынам адбылося, што і стагоддзе «УНОВІСа», і яго дзень нараджэння супалі ў месяцы лютым. Сёння яго дзень народзінаў адзначаюць у Пецярбургу яго вучні. Так што мы вельмі рады, што гэты дзень адзначаны ўжо ў некалькіх краінах. Але насамрэч імя Хідэкеля і яго спадчына сёння належаць усяму свету. І чым даўжэй мы жывем, тым лепш мы бачым, што ўсё большая і большая колькасць літаратуры з'яўляецца ў розных канцах свету з нагоды першапраходніцтва «УНОВІСа» і Лазара Хідэкеля менавіта ў галіне архітэктуры — архітэктуры будучыні. Ён марыў, каб наша зямля назаўсёды засталася зялёнай і некранутай, чалавек жыў у вельмі добрых умовах, узвышана прыпаднятыўшыся над зямлёй. І сёння ўсё болей і болей схіляюцца да таго, што гэта быў правільны шлях вырашэння праблемы».

Рэгіна Хідэкель сказала, што ў Беларусь хутка прыязджае Грэта Тунберг: «Яна нават і не ведае, што прыедзе ў краіну, дзе нарадзілася новая архітэктурная экалогія. Я думаю, ёй пра гэта скажуць».

Мастацтвазнаўца адзначыла таксама і падзею, якая адбылася ў кастрычніку 2019 года. Пры ўдзеле нашчадкаў у Мінску ўпершыню прайшло ўручэнне прэстыжнай узнагароды для архітэктараў — Міжнароднай прэміі імя Лазара Хідэкеля.

— Мы вельмі рады таму, што гэты праект стаў часткай большага, і з'явы, якая ўсё болей разрастаецца, — сказала Рэгіна Хідэкель. — Ён пачаўся з прэміі. Потым была канферэнцыя, выстава. І мы рады, што сюды прыйшлі людзі з адукацыйнага сектара, якія хочуць уключыць спадчыну «УНОВІСа» і спадчыну Хідэкеля ў адукацыйныя праграмы, што вельмі важна. І мы бачым і разумеем, што мы будзем супрацоўнічаць з Беларуссю доўга і працаваць над самымі рознымі праектамі. І мы глядзім наогул не тое каб з надзеяй, а з такой бясстрашнасцю ў будучае, дзе нас чакаюць новыя адкрыцці.

— На жаль, дзядуля сышоў з жыцця, калі мне было ўсяго 6 гадоў. Але крышку ён мяне навучыў маляваць, я памятаю першыя малюнкі, якія я рабіў. І я як бы разумеў, што ён стварае нейкія вельмі важныя, проста грандыёзныя аб'екты, ідэі. З часам я ўсведамляў гэта больш і больш. Я бачыў значнасць усяго гэтага авангарда. Асабліва калі я потым ужо прыехаў у Амерыку. Але я заўсёды ведаў, што ён нарадзіўся тут, у Беларусі, у Віцебску. Ён таксама расказваў крыху пра сваё дзяцінства. Для мяне проста было такое незабыўнае ўражанне, хаця прайшло ўжо 35 гадоў, прыехаць у Віцебск і ўбачыць вытокі і месца, дзе нарадзіўся мой дзядуля, і дзе зарадзілася гэта вялікае мастацтва, — распавёў Раман Хідэкель, архітэктар-урбаніст, унук мастака.

— Мы прысутнічаем, калі наноў вяршыцца гісторыя, гэта вяртанне сімвалічнае. І я думаю, што гэта такія «невыпадковыя выпадковасці», якія адбываюцца. Дзень народзінаў Лазара Хідэкеля, які мы святкуем разам з яго сям'ёй у год стагоддзя «УНОВІСа». І ў гэты момант у Нацыянальным мастацкім музеі адкрыта першая ў гісторыі Беларусі выстава Лазара Хідэкеля. Калі ёсць агонь і жаданне штосьці зрабіць, можна зрабіць усё. Год таму гэта былі ўсяго толькі фантазіі і ідэі. Але сёння мы кажам пра тое, што ёсць такое ідэальнае партнёрства нашчадкаў, бізнесу, некамерцыйнай арганізацыі і дзяржаўных структур. І сапраўды можна дасягаць надзвычайных вынікаў дзякуючы такому партнёрству, — сказала Майя Кацнельсон, заснавальнік Цэнтра беларуска-яўрэйскай культурнай спадчыны.

Атрымаць новыя эмоцыі ад твораў Лазара Хідэкеля можна ў Нацыянальным мастацкім музеі. Там упершыню ў Беларусі адкрылася яго персанальная выстава. Назвай экспазіцыі сталі прароцкія словы мастака: «Нас зразумеюць праз 100 гадоў».

**Фота facebook.com**

*У мінулым нумары НЧ адбылося некалькі прыкрых памылак: у матэрыяле «Спісалі на мацярык: куды знік рэпрэсаваны пастпрад БССР?» дачку Андрэя Мароза завуць не Людміла, а Любоў.*
*У матэрыяле «ЗША: выміранне выратуе планету?» імя выкладчыцы — Патрысія МакКормак. Прыносім свае прабачэнні!*

# БагатаДата

**У гэтыя дні пачаў свой пакутны шлях самы вядомы беларускі дысідэнт часоў СССР, а таксама адбылася падзея, якая паклала пачатак скону таго самага СССР. Што яшчэ цікавага адбылося — чытайце ў нашым аглядзе.**

### 7 сакавіка

**1950.** У вёсцы Чарапы Шклоўскага раёна на Магілёўшчыне нарадзіўся кампазітар, народны артыст Беларусі Васіль Раінчык. Кіруе ансамблем «Верасы».

**1985.** Беларускі дысідэнт Міхаіл Кукабака быў прысуджаны да 6 гадоў пазбаўлення волі за антысавецкую дзейнасць. Усяго ў турмах і вар'ятнях ён правёў 17 гадоў. Вызвалены і рэабілітаваны падчас Перабудовы. А ўпершыню ён выявіў іншадумства ў 1968 годзе, калі яго хацелі пасылаць з савецкім войскам у Чэхаславакію: Кукабака заявіў, што скіруе зброю ў бок савецкай арміі як акупанцкай.

### 8 сакавіка

**Міжнародны дзень жанчын і міжнародны дзень планетарыя.**

**1910.** У вёсцы Турэц Карэліцкага раёна на Гродзеншчыне нарадзіўся вядомы оперны спявак Пётр Конюх. Пасля вайны, падчас якой удзельнічаў у бітве пад Монтэ-Касіна і атрымаў за гэта ордэн, застаўся ў Італіі, бо ў 1945 годзе атрымаў ваенную стыпендыю на навучанне ў Рымскай акадэміі мастацтваў. У 1955 годзе пераехаў у ЗША. Выступаў у самых вядомых операх свету. Выкладаў спевы ва ўласных школах. Выконваў і беларускія народныя песні. У 1975 годзе наведаў Беларусь, але ніколі на Радзіме так і не выступіў. Пахаваны ў ЗША на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку, дзе яшчэ пры жыцці набыў участак.

### 9 сакавіка

**Сусветны дзень ды-джэяў.**

**1925.** У расійскай Самары нарадзілася беларуская спявачка, народная артыстка СССР Тамара Ніжнікава. З 1949 па 1976 гады была салісткай Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР.

**1960.** У Баранавічах нарадзіўся тэатральны рэжысёр Уладзімір Савіцкі. Ставіў спектаклі ў Коласаўскім і Купалаўскім тэатрах. Цяпер працуе дырэктарам Тэатра юнага гледача.

### 10 сакавіка

**1920.** У вёсцы Чубакова Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці нарадзіўся дзеяч БССР Сяргей Маісеенка. Амаль 20 гадоў працаваў міністрам лясной гаспадаркі.

### 11 сакавіка

**1985.** Міхаіл Гарбачоў быў абраны апошнім кіраўніком СССР — генеральным сакратаром ЦК КПСС.

### 12 сакавіка

**1915.** У вёсцы Макшаны Сенненскага раёна Віцебшчыны нарадзіўся Аляксандр Гаравец, ваенны лётчык, герой Савецкага Саюза. Лічыцца, што ў апошнім сваім баі ў 1943 годзе збіў 9 нямецкіх самалётаў. Гэта рэкорд сярод савецкіх лётчыкаў. У Мінску ёсць вуліца імя Гараўца.

### 13 сакавіка

**Сусветны дзень сну.**

**1820.** На загад расійскага імператара Аляксандра І была закрыта Полацкая езуіцкая акадэмія — першая вышэйшая навучальная ўстанова на тэрыторыі Беларусі. Дзейнічала з 1812 года.

**1940.** У Гродне спектаклем «Каварства і каханне» адкрыўся Дзяржаўны польскі тэатр БССР.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №393

Падпісана да друку 06.03.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.